у мяне пад акном.

Што такое кляцьба? —
Маладыя юнацкія мары.
Горда ўмерлі яны,
на сябе не прыняўшы ганьбы;
Затапталі іх колы,
іх слодыч злізалі пажары
З вуснаў, што вымаўлялі
гарачыя словы кляцьбы.
Як яе катавалі,
Халодныя вусны маўчалі,
Больш за ўсё баючыся, каб часам не здрадзіць табе,
Недарма яны ў вечным каханні
табе прысягалі,—
Лепей нават, чым я,
сведчыць попел пра вернасць кляцьбе.
Я не думаў, сусед мой, ніколі
пра вечнасць кахання,
Мо' такое каханне
і ёсць на зямлі, не скажу,
Калі ёсць, дык няйначай,
сябе яно паліць дазвання,
Так, як гэта дзяўчына, йдучы
за бяссмерця мяжу.
Мой сусед, ад мяне ліст табе прынясе лістаносец;
Ты павер, я надзеі тваёй забіваць не хачу;
Не прывык я, сусед мой,
такія навіны прыносіць,
Ад якіх скачуць літары,
як груганнё, у ваччу.
Ды не ўцешу цябе папялішчамі ды руінамі,
Хоць які ні ўжывацьму ў лісце
тонкі ход, тонкі ход;
Не да твару, аднак, ваяваць мне
з цяжкімі навінамі,
Бо навіны — не ветракі, я — не Дон-Кіхот.
Той, хто ў вочы гармат пазіраў,
не збаіцца нічога
І ад праўды, што я напішу,
Не заплюшчыць вачэй.

*

Трэці дзень я нашу ліст другі ад суседа другога,
Дзе ён просіць мяне, каб знайшоў яго жонку й дзяцей,
Я знайшоў яго сына, нарэшце,
у доме дзіцячым;
Ён трымаўся спакойна,
а нехта расказваў мне з плачам,
Што ў Нямеччыне маці яго,
Што памерла сястра...
Потым з ім мы ад плачу таго
Уцяклі са двара.
Сын пісаў,— я глядзеў, як выводзіў ён словы
старанна,—
Першы раз у жыцці ён пісаў свайму бацьку адказ;
Ён пісаў і аб тым,
як сустрэўся са мной нечакана,
І прасіў за памылкі ў лісце прабачэння не раз,
І прасіў прабачэння за гібель сястры і за тое,
Што не можа ён маці знайсці — бацька знойдзе
хутчэй,
Бо ён бацька на тое,
І ў бацькі ёсць зброя,
І яму да Берліна
ад лініі фронта бліжэй.
Ён пісаў і ўсміхаўся;
і сам сабе здаўся я лепшым,
Больш патрэбным народу,
бо гэтулькі радасці ў дом
Я яшчэ не прыносіў ніколі
ні песняй, ні вершам,
Колькі сёння прынёс я
маленькім бацькоўскім лістком.
Я хацеў-бы прайсці
па дарогах вайны лістаношай
І бацькам назаўсёды вярнуць
іх дзяцей адрасы.
Зноў паштовыя скрынкі
развесіць на вуліцы кожнай
І лісты забіраць з іх штодня па чатыры разы;
І да кожнага з іх дакранацца

сваімі рукамі,
І шчаслівай дарогі жадаць,
як жадалі раней,
Каб знаёмыя людзі з'язджаліся ўслед за лістамі,
Засялялі кватэры хутчэй,
Запрашалі гасцей.
Ліст закончыў хлапчук, дапісаўшы апошняе слова.
Лістаношы дарога
На пошту мяне павяла.
Я на пошце з дзяўчынай спаткаўся,
І не выпадкова
Я прынёс ёй адказы:
Свая ад свайго не ўцякла.

*

Мы сядзім каля дома, паштовыя скончыўшы справы,
Пад аховай тых дрэў,
Дзе сусед мой з дзяўчынай сядзеў;
Толькі вее іначай у твары нам вецер ласкавы,
Вее пахам з жытоў,
Што з усіх абступілі бакоў.
З каласамі яны, з васількамі
прыйшлі да сталіцы,
Перапёлчыны песні на вуліцах
чутны цяпер;

Б'ецца рэха жывое
аб сцены маёй камяніцы,
Перапёлкі, здаецца,
не з жыта крычаць, а з кватэр.
Вее ветрык, а ў ім
часам дыму пачуеш дамешак,
А астатняе ўсё тое-ж самае, як да вайны:
Тая-ж самая ноч,
тыя-ж самыя дрэвы ды месяц,
Нат' у зораў, што свецяць над намі,
імёны адны.
Брук той самы на вуліцы,
тыя-ж трамвайныя рэйкі,
Ды па іх не пракоціцца
лязгат ранейшы ды гром,

Ды не пыл асядае,
а попел на нашыя вейкі
Ад кахання таго,
што сядзела пад гэтым акном.
А астатняе тое-ж,
Спатканне амаль што такое-ж:
З ціхіх вуснаў гатовы сарвацца і загучаць
Мары, зноў маладыя,
Прызнанні
У вечным каханні,
Пацалункі, якія
Ніякім агнём не злізаць.
Можна высмаліць чорныя косы,
Можна высушыць росы,
Можна ногі прымусіць не датыкацца травы,
Але хай паспрабуюць
спаліць маладыя нябёсы,
З іх злізаць сіняву
альбо зорку адну з сінявы.
Гэтак сама сінець будуць вечна
юнацкія мары,
Прагных вуснаў ад вуснаў ніколі не адагнаць,
Слодыч іх не атруцяць,
не вытруцяць дымам пажары
І не зліжуць агнём,
бо яны гарачэй ад агня.

*

Мы з табою маўчым
І на зоркі глядзім
І на неба...
Ты мяне не пытаеш, чаму я так доўга маўчу;
Я таксама ў цябе не пытаю,
бо гэта не трэба,
Я пытацца пра тое, што ведаю сам,
не хачу.
А маўчыш ты таму,
што згубіўся твой суджаны дзесьці
У далёкай імгле
І даўно ўжо, як вестак не шле.
Крыўдна часам прынесці

На адрас памершага
Весці,
А сабе, а жывой,
Не прынесці ні раз, ні адной.
Сэрца думку трывожа:
А можа, а можа, а можа,
У шпіталь санітары нясуць яго на шынялі.
Можа ў цёмную ямку
Кулі кінулі Янку,
Штурханулі з абдымкаў тваіх
        у абдымкі зямлі.
Там не ўбачыць ён сонца
        і ўсё яму будзе няміла,
Напісаў-бы адтуль,
Ды ў вачах пацямнела ад куль;
І ніхто не падасць
        ні паперы яму, ні чарніла,
Не запаліць лучыны,
Каб ліст напісаць да дзяўчыны.
Шмат вайна адняла і ў мяне,
        але лепш не пытацца,
Усё роўна табе я не змог-бы
        злічыць усяго;
Мне ад страты маёй
        дарагога ліста дачакацца
Нат цяжэй, чым табе, дарагая,
        ад Янкі свайго,
Можа менш бедаваў-бы,
        каб страціў я толькі каханне,
Ды чужынец агнём і жалезам
        прайшоўся па ўсім,—
Колькі ў горадзе нашым
        будынкаў разбіў ён дазвання,
Столькі светлых будынкаў
        разбіта і ў сэрцы маім.
Нам і часу не хопіць з табою
Лічыць іх з тугою,
Страты ўсе ўспамінаць,
Аб усіх уздыхаць
Пакрысе;
Калі гэтым займацца,—

што з горадам будзе, з зямлёю,
Хто будынкі паставіць на ногі,
лісты разнясе?!

*

Хоць дзяцей калыхаць
Давядзецца нам разам не скора,
Хоць шчаслівымі стаць
Не дазволіць нам покуль што гора,
Ды й расстацца з табой назусім
Нам прыкмета адна не дае:
Мы з табою сядзім і маўчым.
І маўчым,
як свае.
Нам багата чаго
давядзецца рабіць яшчэ разам,
Дом пасведчыць, што ты мне свая
І што я
Не хлушу.
Ты прынесла лісты —
я на іх не марудзіў з адказам.
Новы ліст прынясеш мне,—
я новы адказ напішу.
Не дарма ў гэтым доме
стыкнула з табой нас прыкмета,
Мы напішам адказы за гэта
яго жыхарам;
Для сваіх, на пачатак,
работа не меншая гэта,
Чым дзяцей закалыхваць,
якія ці суджаны нам?
Мы напішам у тыл,
каб вярталіся з эвакуацыі:
Просіць дом, каб хутчэй
засялялі яго жыхары.
Бо сумуюць без догляду іх
маладыя акацыі
І старэнькія добрыя ліпы
на ціхім двары.

Мы напішам на фронт,

што жадае ім дом перамогі
I датуль са зваротам чакаць іх згаджаецца ён,
Покуль не разаб'юць яны
ўсе ланцугі і астрогі
I не вызваляць тых,
што чужынец забраў у палон.

Так усім мы напішам,
У гэтым прыйшлі мы да згоды.
Змрок радзее, святлее,
Цяпер за работу пара.

*

Ноч над горадам родным мінула
і ўжо назаўсёды.
Дом да сонца імкнецца,
яго залівае зара.

Насцеж вокны і дзверы
Адчынілі кватэры,
Запрашаюць бацькоў і дзяцей,
Што жылі тут раней,
Каб забраць іх з сабою
I рухацца разам з зямлёю
Ад руінаў
I ад успамінаў
Далей і далей...
Мне здаецца, не дом,
а вялікая каша Радзіма
Заняла сваё месца пад сонцам,
Рыхтуецца ў шлях,
I гасцінна чакае,
з адкрытымі насцеж дзвярыма,
Дня таго, калі мы
з перамогай збярэмся пад дах.

*1944 г.*

## ПРОСТЫЯ ЛЮДЗІ

**1**

Цесны акоп, неабжыты
У Мірона Гукая,
Цёмнае вецце ракіта
Над :м нахіляе.

Бачна Еўропа
Салдату з акопчыка тога.
З тога акопа
Відна ўжо яму перамога.

Выкапаў тут ён акоп свой
Апошні, часовы —
Заўтра адгэтуль ён пойдзе
На штурм канчатковы.

Заўтра ад гэтай ракіты
І гэтай крыніцы
Пойдзе на штурм ён
Берліна — чужацкай сталіцы.

Ужо рэйхстага
Снарады даўно дасягнулі,
Хутка дасягнуць
Тых сцен і ягоныя кулі.

Здзейсніцца хутка
Жаданая мара салдата—
На тых мурах распісацца
Чаргой з аўтамата.

З гэткім настроем,
Пад цёмным ракітавым веццем,
Піша Гукай перад боем
Пісьмо сваім дзецям.

«Вам не звычайнае, дзеці,
Пісьмо насылаю,
Вас з перамогай, нарэшце,—

Ён піша,— вітаю.

Сам неўзабаве
Яе прынясу вам з Берліна,
Калі ў апошняй у справе —
У бойцы — не згіну.

А як загіну,
А як не дайду да парогу,
Вас не пакіну —
З пісьмом вам прышлю перамогу.

Хоць да канца і было
Ім пісьмо дапісана,
Толькі яно на сяло
Да дзяцей не паслана.

Ранак заняўся чаканы
У сонца праменні.
Грымнула бойка.
Пісьмо засталося ў кішэні.

І на яго ён забыўся
У тую хвіліну,
Як дваццаць тысяч гармат
Залп далі па Берліну.

Як бог вайны,
Уздыхнуўшы ў яго за спіною,
Усе дваццаць тысяч снарадаў
Пранёс над зямлёю.

Там, дзе ад выбухаў
Пылу заслона ўзнялася,
Як на вялізным таку,
Малацьба пачалася.

Там малаціў
Грозны бог з дапамогай снарадаў,
Веючы душы ад цела
Варожых салдатаў.

Дзень перамогі
Узвіўся ўгары над рэйхстагам
Сцягам чырвоным —
Савецкае Арміі сцягам.

Як-жа сышлася на свята
Сям'я баявая,
Не далічыліся ў роце
Мірона Гукая.

Згінуў, казалі, ў акопе,
Пад вецццем зялёным,
Спалены, быццам, казалі,
Ён фауст-патронам.

А хтосьці бачыў
І кляўся пры гэтым, вядома,
Нібы загінуў баец
Пад руінамі дома.

Цэлая рота сапёраў
Шукала салдата.
Крыўдна ўсім ведаць было,
Што не ўбачыў ён свята,

У санітараў пыталіся,
У медсанбаце—
Можа там маюцца
Весткі якія аб страце.

Але адказ афіцыйны
Прыйшоў з медсанбата,
Што не было і няма
Там такога салдата.

Так і рашылі, што ў часе
Апошняга боя
За чэсць Радзімы
Загінуў ён смерцю героя.

Так і ў пісьме напісалі —
Магчыма дачасу —
У вёску яго, дзе ён быў
Старшынёю калгаса.

Часць-жа сама, дзе служыў ён
Пасела ў вагоны —
Роту за ротай
Павезлі на ўсход эталоны.

**2**

Ён не жывы, не забіты
І не адшуканы,—
Ён у варожай зямлянцы
Жывым пахаваны.

Крыку яго пад зямлёй
Санітары не чулі,
Тую зямлянку якраз
І сапёры мінулі.

Так, як упаў, ён ляжыць —
У паходным адзенні,
З неадасланым, з тым самым
Пісьмом у кішэні.

Ён не забіты —
Не мае ніводнае раны,
А ў той-жа час не жывы,
Бо зямлёй закапаны.

Ён не жывы, бо яго
Паміналі ўжо людзі,
А ў той-жа час і не мёртвы,
Бо дыхаюць грудзі.

Хоць у зямлянцы
Ні дня ён не бачыць, ні рання,
З цёмнаю ноччу
Вядуць яго вочы змаганне.

З сыпкай зямлёю
Змагаюцца ногі і рукі.
Вушы вядуць з нематою
Змаганне за гукі.

Ён не жывы, не забіты
Ляжыць пад зямлёю,
Смерць і жыццё
Размаўляюць з ім мовай сваёю.

Смерць угаварвае:
— Годзе,
Забудзем трывогі.
Не варушыся,
Няхай адпачнуць твае ногі.

Шмат на іх долю
Дарожнай дасталася мукі.
Не варушы і рукамі.
Скрыжуй свае рукі.

Але жыццё не згаджаецца:
— Смерці не слухай,
Рухай нагамі,
Рукамі знямеўшымі рухай.

Не паддавайся, змагайся,
Адольвай напасці,
Ты яшчэ ўстанеш на ногі,
Ты пойдзеш да часці...

Смерць-жа пярэчыць жыццю:
— Не хадзі лепш у роту —
Знят ты з вайсковага ўжо
І з партыйнага ўчоту.
Што табе трэба?
Пражыў ты, лічы што, поўвека,
Болей зрабіў,
Чым паложана на чалавека,
Мэты высокай дасяг,
За якую змагаўся,

Горды твой сцяг
Над варожай сталіцай узняўся.
Ты свае справы зрабіў...

І здаліся такімі
Рукі і ногі цяжкімі,
А словы важкімі,
Што ўжо гатоў быў
Прыйсці ён са смерцю да згоды,
Так, як яна гаварыла,—
Заснуць назаўсёды.

Ён і заснуў-бы,
Каб слабай рукой нечакана
Не адшукаў ён пісьмо,
Што дамоў не паслана.

Можа яму і не трэба
Ні сцежак, ні неба,
Але і сцежкі і неба
Пісьму яго трэба.

Яшчэ патрэбна і пошта
Яму палявая,
Яшчэ й паштовая скрыня,
Што пісьмы прымае.

Гэта няпраўда,
Што ён аслабеў у змаганні.
Ёсць яму справы
І ёсць яму выпрабаванні.

Трэба ўставаць яму,
Трэба збірацца ў дарогу,
Дзецям сваім з тым пісьмом
Адсылаць перамогу.

Што-ж? Ён зазнае
І гэткае выпрабаванне,
Хоць і нялёгка —
З зямлянкі халоднае ўстане!

Доўга і ўпарта ён рыўся
Праз жвір і праз цемень,
Ранячы рукі
Аб бітае шкло і аб крэмень.

Доўга ён рыўся —
Здаваліся хвілі гадамі —
Сны чаргаваліся з явай,
А ява са снамі.

У тым падарожжы надземным
Былі свае далі,
Штормы душы,
Хваляванняў шалёныя хвалі.

Быццам да берагу ён,
Да святла ён прабіўся,
Прагна да шчыліны
Вокам прыпаў і забыўся.

Гэтак матросы,
Пазбегнуўшы чорнае згубы,
Трацяць прытомнасць,
Сышоўшы на бераг свой любы.

Так, пакідаючы
Упершыню свае нетры,
Валяцца з ног вуглякопы
На свежым паветры.

Свет ён убачыў.
Той свет захістаўся ў тумане
І замільгаў прад вачыма,
Нібы на экране.

І наплыла, як бясконцая
Лента-дарога,
Лента яго забыцця
Нечувана даўгога.

Кадр плыў за кадрам,
Карціны змянялі карціны,
Фільм пачынаўся, якому
Глядач ён адзіны.

### 3

Фільм пачынаўся з таго,
Як, сабраўшы ўсе сілы,
Выйшаў ён з выпрабавання —
Устаў ён з магілы.

Полем знаёмым
Ішоў па варонках, канавах,
Па драцяных загарожах,
Калючках іржавых.

Дзіўна, што вушы ягоныя
Крыкаў не чулі,
Дзіўна было яму,
Што не свісцяць над ім кулі.

Вось і акоп. Ля ракіты
Крынічнай вадою
Твар свой памыў, каб людзей
Не палохаць зямлёю.

Далей пайшоў,
Развітаўшыся з тым ён акопам,
Проста на станцыю
Некалі ходжаным тропам.

Там да апошняга часу,
Як ён памятае,
Штаб быў і пошта
Пры штабе была палявая.

Там, крокаў колькі ад станцыі,
Пройдзеш улева,
Скрыню паштовую ўбачыш —
Прыбіта да дрэва.

Станцыя. Дрэва.
Канверт ён дастаў ужо сіні.
Але дарэмна:
Ні штаба, ні пошты, ні скрыні.

З дрэў і платоў пазрываны
Ранейшыя ўказкі,
Параскіданы
Страляныя гільзы і каскі.

Болей нічога —
Ні пошты, ні руху штабнога.
Толькі грыміць, не сціхае
Чыгунка-дарога.

Зноўку турбота,
Зноў клопат дарожны чакае.
Дзе-ж яго рота?
Дзе пошта яго палявая?

Каб адшукаць іх,
Ён сеў у цягнік на світанні,
У спецыяльны —
Для зведаўшых выпрабаванні.

Вёз той цягнік
У напрамку на ўсход, на радзіму,
Вязняў з Дахау,
З Майданеку і з Асвянціму,

Ехалі ў ім на радзіму
З палону дзяўчаты,
Ехалі ў ім і байцы
Са шпіталяў дахаты.

Ехалі, спалі, драмалі,
Пазбыўшы напасці.
Ехаў і ён сярод іншых
У пошуках часці.

Ехаў і ён сярод іншых

У гэтым саставе.
Адпачываў пасля цяжкіх
Трывог ён на лаве.

Добра было яму ведаць
Хвілінаю тою,
Што ўжо ляжыць пад шынелем ён
Не пад зямлёю;

Знаць, што ён дрэмле,
Што соладка ён пазяхае
І што не дрэмле цягнік —
Часць яго даганяе.

**4**

Сталася так,
Што дарогай ён ехаў выгоднай —
Вёз яго хуткі цягнік
Проста к станцыі роднай.

Рэйкі з разгону
Бралі пад'ёмы.
Колы грымелі:
— Не ведаем стомы!

Колы па рэйках
Грукалі лоўка:
— Вось і прыехалі мы.
Астаноўка.

Радыё з роднае
Станцыі апавяшчае
Аб новым свяце Радзімы —
Дзевятага Мая.

Дзень перамогі! —
На поўныя грудзі дыхнулі
Людзі і далі,
Як гэтых два словы пачулі.

Полем дадому

У салдацкім ішоў ён шынелі.
Па-веснавому
Вясёлыя руні рунелі.

Чыстым блакітам
У вочы глядзелі нябёсы.
Беглі шчаслівыя дзеці
З сяла да бярозы.

Дзеці бацькоў сваіх
Сёння з паходу чакалі —
Беглі бацькоў сустракаць
У вясняныя далі.

Беглі бацькоў сустракаць,
Каб правесці дахаты
З радасным шчэбетам —
Гнёздаў людскіх птушаняты.

Покуль мінаў ён іх,
Вецер глытаючы пыльны,
Сотні дзіцячых вачэй
Углядаліся пільна.

Білася сэрца трывожна —
Чакаў, што знянацку
Сын ці дачка яго клікнуць,
Прызнаўшы ў ім бацьку.

Але не клікнулі...
Поле. За гонямі гоні...
З'явіцца ў хату баец
Нечакана сягоння.

Па-гаспадарску
Вачэй ён не зводзіў з абшараў,
Што да вайны абрабляў,
На якіх гаспадарыў.

«Шмат дзе калгаснае поле
Плугамі не ўзнята,

Коней відаць, трактароў
На сяле небагата.

Хутка, аднак, іх пабольшае, —
Ведаў ён стала,—
Будуць палеткі ўзараны,
Засеяны дбала...»

**5**

Там, дзе раней былі хаты,—
Дымілі зямлянкі.
Знішчылі хаты, спалілі
Фашысцкія танкі.

Толькі ўзвышаецца
Хата Мірона Гукая,
Але, вядома,
Не тая былая — другая.

Хто збудаваў яе дзецям?
Хто дбаў аб той хаце?
Маці іх можа?
Не маці.
Загінула маці.

Дзякуй суседзям,
Што самі аб дзецях падбалі,
Людзям савецкім,
Што воіна не забывалі.

Дзякуй і нізкі паклон ім
За шчырую ласку —
Дах крыты гонтам,
Як мае быць, па-гаспадарску.

Па-гаспадарску-майстэрску
Упрыгожаны ганак,
Вокны зашклёны,
І ў іх адбіваецца ранак.

Дзверы, памацаў ён,

Зроблены з лесу сухога,
Чыстая ў хаце падлога —
Заўважыў з парога.

З дошак сасновых сухіх
Змайстраваны палаці.
Ён увайшоў. Цішыня —
Як нябожчык у хаце.

Дзеці там спалі,
На стол палажыўшы галовы.
Седзячы спалі,
Падушкай ім стол быў дубовы.

Так толькі спяць
Пасля працы ці страты цяжкое.
Што-ж іх змагло так,
Якое здарэнне такое?

Ліст перад імі ляжаў...
Бацька стаў за спіною —
Пісаны ліст на вайне,
Незнаёмай рукою.

Ліст — пра Мірона Гукая,
Пра бацьку-героя,
Які загінуў у часе
Апошняга боя.

Бацька чытаў і не верыў,
І моргаў вачамі,
Літары тыя
Скакалі ў вачах груганамі.

Слёзы на літарах бачыў —
Дзіцячыя слёзы.
Вось чаму сёння
Ён іх не сустрэў ля бярозы.

Стаў сярод хаты,
Няпэўнасцю, горам спавіты,

Весткай узрушаны...
Можа ён, праўда, забіты?

Можа ён дзецям нябожчык,
Сябрам па калгасу?
Выйшаў ён з хаты,
Каб высветліць тое адразу.

Да аднаго ён
Суседа зайшоў, да другога,
Ды пуставалі зямлянкі —
Не ўбачыў нікога.

Дзе-ж гэта людзі? —
Дзівіўся ён дзіўнай прыгодзе.
Людзі ўсе чыста
Былі каля школы на сходзе.

Хтось выступаў, было чутна,
З прамовай гарачай.
Сход той прысвечаны
Дню перамогі, няйначай.

Стол быў засланы чырвоным —
Прыкметна здалёку,
Ён падышоў. Да сцяны
Прысланіўся ён збоку.

— Ну, а цяпер мы,—
Працягваў прамоўца,— устанем,
У Дзень перамогі
Мірона Гукая памянем.

З дня заснавання калгаса
Ён быў старшынёю.
Слаўна загінуў ён,
З чэсцю засыпан зямлёю.—

З лавак і з партаў,
Нібы па загаду, ўсе ўсталі,
Шапкі здымалі.

Галовы схілялі.
Маўчалі.

Потым садзіліся людзі...
— Ды гэтага мала.
Трэба, каб з сэрцаў
Імя старшыні не знікала.

Ён заслужыў гэта,
Можна сказаць аб ім смела —
З першага дня
Кіраваў гаспадаркай умела.

Верны быў справе,
Свінца не баяўся, жалеза —
Яшчэ ў трыццатым
Стралялі ў Мірона з абрэза.

Ён -жа змагаўся,
Упарта свайго дамагаўся:
Прыкладным, лепшым калгасам
Калгас яго зваўся.

З гэтай хвіліны —
Мая прапанова такая —
Звацца павінен
Ён імем Мірона Гукая.

Ён над праўленнем калгаса
Імя сваё бачыць.
Вось і адказ на пытанне:
Што ўсё гэта значыць?

Пройдзеным шляхам сваім
Можа ён ганарыцца.
Можа быць, з лесам такім
Сапраўды пагадзіцца?

Ён пагадзіўся-б,
Аднак, на спакой ці не рана?
Хіба зямля трактарамі

Уся ўжо ўзарана?

Хіба касілкі
Усе ўжо лугі пакасілі?
Хіба камбайны ўсё зжалі
І ўсё змалацілі?

Праца хіба гаспадарыць
Ужо на планеце?
Хіба няшчасце
Змянілася шчасцем на свеце?

Хіба галодны ўжо сыты,
А босы абуты?
Не, не паўсюды пазбыты
Няшчасці, пакуты!

Шчэ змагароў сваіх
Шчасце па свеце збірае...
Хіба не кліча яно
І Мірона Гукая?!

Тут ён і ўспомніў,
Што ён не жывы, не забіты,
Што ён засыпаны жвірам,
Зямлёю зарыты.

Тут ён згадаў,
Што са смерцю не скончыў змагання,
Што да канца
Не прайшоў яшчэ выпрабавання.

Што ён ляжыць пад зямлёю,
З зямлянкі не ўстаўшы,
Дыша паветрам,
Да шчыліны прагна прыпаўшы.

Тут і прачнуўся ён,
Светлым уражаны светам.
Фільм забыцця абарваўся
Раптоўна

На гэтым.

**7**

Жвір той акопны
Разгроб па баках ён рукамі,
Цвёрдую глебу
Адчуў пад сваімі нагамі.

Лёгка на сэрцы было—
Рад быў небу і пожням.
Мірнае сонца ўзышло
Над акопам апошнім.

Ля ручая
Умываўся салдат раніцою,
Каб не палохаць
Сустрэчных акопнай зямлёю.

Над ручаём умываўся,
А ў светлай крынічцы
Флягу напоўніў вадой
Па салдацкай прывычцы.

І, размачыўшы акраец
Счарсцвелага хлеба,
Звесіўшы ногі ў акоп,
Ён паснедаў як трэба.

Глянуў наўкола—
На бітвай узрытыя пожні
І на акоп свой,
Сказаўшы:

— Акоп мой апошні,
Што пажадаць табе
У час развітання? Не знаю...
Каб ты бур'янам зарос —
Я табе не жадаю.

Лепш пажадаю, каб людзі
Цябе зааралі,

Самі пасеялі жыта
І самі пажалі;

Каб са снапоў тых,
Што жнеямі будуць нажаты,
Не карыстаўся багаты —
Іх вораг закляты;

Каб ты, акоп мой апошні,
Не знаў больш паходаў,
Каб назаўжды стаў
Апошнім акопам народаў.

Згінуць з зямлі назаўжды
Пажадаўшы акопу,
Роту шукаць ён пайшоў
Па знаёмаму тропу.

Ды не знайшоўшы,
К начальству прыйшоў франтавому
— Ехаць Куды загадаеце —
У часць ці дадому?

Там пра гады
Ды пра службу ў яго распыталі,
Глянулі ў справу
І ехаць дамоў загадалі;

Там ён пачуў,
Што яго ўжо забітым лічылі,
Нават аб тым
У сяло яго паведамілі;

Там прачытаў ён, —
Яму паказалі газету, —
Чым землякі адказалі
На вестку на гэту.

Як для дзяцей яго
Хату яны збудавалі,
Як яны імем ягоным

Калгас свой назвалі.

— Добрая справа, —
Сказаў ён, — і гонар і слава,
Ды ці не рана,—
Спытаў ён, — такая пашана?

Нам спачываць не да твару
У променях славы.
Яшчэ далёка не скончаны
Нашыя справы.

Яшчэ іх хопіць
На доўгія, доўгія годы.
А бессмяротнымі ў справах
Мы станем заўсёды.

Потым дадому
Збіраўся ён усхваляваны.
Зноў адшукаўшы пісьмо,
Што было не паслана.

Што-ж?— ён разважыў,—
Пісьмо не пашлю ўжо ў дарогу.
Сам сваім дзецям
Цяпер прынясу перамогу.

Як ён ішоў
Праз нямецкі кірмаш да чыгункі,
Думаў — якія
Купіць для дзяцей падарункі?

Мо' на кашулі —
Вунь тую тканіну-вясёлку?
Ці можа голас зязюлі,
Схаваны ў свісцёлку?

Можа для сына малога
Каня варанога,
Колас жытнёвы ці кветку
З чужога палетку?

Так разважаў ён,
Але не купіў ён нічога.
Што яму ўсё гэта?
З ім для дзяцей — перамога.

З ім перамога. А з ёю
Мець будуць даволі
Дзеці вясёлыя
Кветак у лузе і ў полі;

З ёю — і вырасце колас,
І лён — на кашулі,
З ёю — усцешыць іх голас
Залётнай зязюлі;

З ёй — панясуць у жыццё іх
Праз родныя гоні
Мары шчаслівыя —
Самыя хуткія коні!

Як ён ішоў па Берліну,
То гулкія крокі
Чутны былі на ўвесь свет —
І блізкі і далёкі.

Крокі па свеце па ўсім
Чулі простыя людзі.
Радасным рэхам сваім
Напаўнялі ім грудзі

Крокі салдата,
Што крочыў да працы, да плуга
Іх абаронцы, іх брата,
Іх мужнага друга.

**ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА**
Твор свой, напісаны вершам,
На гэтым канчаю.
Я простым людзям
Ад сэрца яго прысвячаю, —

Людзям, зазнаўшым
З фашысцкаю смерцю змаганне,
Тым, што суровае
Вынеслі выпрабаванне.

Хай-жа ад сэрца да сэрца
Ідзе гэта слова...
За акіянам крычаць
Аб вайне ўжо нанова.

Капіталісты хацелі-б
Злачыннай рукою
Простых людзей
Зноў засыпаць акопнай зямлёю.

У сваіх марах
Кватэрай уласнай планету
Бачаць яны, а сябе
Грамадзянамі свету.

Бачаць яны сябе
Свету ўсяго ўладарамі,
Простых людзей-жа —
Навечна сваімі рабамі.

Што-ж? Я скажу ім:
Мы выйшлі з дзіцячага ўзросту
Простых людзей
Заняволіць сягоння не проста!

Простыя людзі стварылі
Дзяржаву на ўсходзе,
Сталі на сталыя ногі
У семнаццатым годзе.

З радаснай працы сваёй
І адзеты і сыты,
Сеюць і жнуць для сябе,
А не для Уол-Стрыта,

Крочаць наперад,
Вялікай узняты ідэяй,
Стаўшы для ўсіх заняволеных
Светлай надзеяй.

Хай-жа ад сэрца да сэрца
Ідзе мае слова...
За акіянам крычаць
Аб вайне ўжо нанова.

Што-ж? Калі зноўку банкіры
Навяжуць нам войны,
Простыя людзі адкажуць
Як след ім, спакойна.

Простыя людзі адкажуць —
На сушы, на моры...
Пазалязаюць ад кары
Падпальшчыкі ў норы.

Ім, паўцякаўшым у норы,
Падземныя ходы,
Так тады скажуць,
За карак схапіўшы,

Народы:
— Вы сябе звалі, паны,
Грамадзянамі свету,
Што-ж, грамадзяне,
Вылазьце з нары на планету!

Страцілі сілу
Жыхарскія вашы паперы,
Вы не прапісаны болей
На гэтай кватэры.

Ваша кватэра ў магіле цяпер,
Пад зямлёю,
З надпісам вечным —
Праклядцем народаў — над ёю.

Так яно будзе.
Вось гэтак адкажуць мільёны —
Простыя людзі ўсіх нацый:
Міроны і Джоны.

Шчасце здабудуць
Сабе назаўсёды — так будзе! —
Гордасць і слава зямлі нашай —
Простыя ЛЮДЗІ.

*1949 г.*

## НОВАЕ РЭЧЫШЧА

**1**

От яна і Пятлянка-рака.
Праязджаю Пятлянку.
Да прараба да Шайпака
Я прыехаў на ранку.

Я іду ў яго дом не гасцём —
Тут мне ўсё незнаёма.

Першы раз я нясу ў яго дом
Свае рэчы, вядома.
Першы раз бачу я гэты кут,
Злажу ў месцы у гэтым.
З Шайпаком гідрастанцыю тут
Будаваць будзем летам.
Справы нашыя, ведаю сам,
Стрэчы нашай чакаюць.
Толькі я не адбіў тэлеграм —
От і не сустракаюць.
Не адбіў, і — такое бяды —
І без іх давялі сюды
Незнаёмыя сцежкі —
Дзе машынай, дзе пешкі.

Сонца толькі ўзышло над ляском.
Ранавата крыху:
Спіць прараб, мусіць, моцным сном,
Я на ганак з ручным багажом
Узыходжу паціху.
Сонца грэе кацёнка за шклом,
Свецяць шыбы гасцінна.
Грукачу...
Адчыняе ў дом
Дзверы мне дзяўчына.
Я пытаю, ці дома Шайпак.

— Як?..
Няма яго дома?

Не прадбачыў я гэта ніяк.

— Вы да бацькі на практыку?
— Так...
— З інстытута?
— Вядома.

— Бацька мой гаварыў мне пра вас.
Ён чакаў вас. Заходзьце да нас.

Маім рэчам адведзены кут
За сцяной у бакоўцы.

Дзе-ж Шайпак? Няма яго тут,
Ён — у камандзіроўцы.
— А надоўга?
— На некалькі дзён —
Свой праект зацвярджае.

Як гасцю ўжо, мне клопат відзён:
А ці шчыра прымае?

Шчыры клопат—каму не міл?
Сіл пярэчыць не маю:
Па загаду дарожны пыл
З вопраткі вытрасаю.
Па загаду змываць я іду
Пыл, загар, — не пярэчу.
Лье яна мне на рукі ваду —
Мыю твар, — не пярэчу.
Я выконваць усё ёй гатоў,
Нат'умыцца яшчэ раз.
Нам не сумна.
У нас да размоў,
Да цікавых для нас размоў,
Ёсць агульны інтэрас.
Пра вучобу цяпер у яе
Мары ўсе — выпускніца;
Перад ёй у красе паўстае
Горад той, што грыміць, што пяе,
Што начамі ёй сніцца.

Ёй пра горад ды пра інстытут
Распытаць цікава.
Мне-ж пра ўсё, што робіцца тут,
Знаць цікава,
Вядомая справа...
— Дзе стаяць будзе станцыя ў вас?
Можа пройдземся з вамі ў калгас,
Калі часу не шкода?

Па пытанню і гэтаму ў нас
Згода поўная... ў добры час!

— Можа пройдземся?
Згода?
— Згода...

**2**

Мы прыйшлі.
Скрозь бярвенне відаць,
Сваі ў засені граба.
Будзем станцыю тут будаваць
Па праекту прараба.
І рабочы настрой,
Неспакой
Авалодвае мною:
Што рабіць нам з ракой?
Што з вадою?
Хто Пятлянкаю рэчку назваў,
Нецікава,
Хто яе, як ствараў,
Папятляў
Тут і ўлева і ўправа?
Робіць петлі рака
З хмызняка, з лазняка
Невясёла,
Аж пад самы пад дом Шайпака
Выгінаючы кола.
З горкі, як на далоні, відна
Мне яе дарога:
Круг зрабіўшы, бяжыць яна
Зноў да месца старога.

Колькі лішніх тут зроблена вёрст,
Кіламетраў?..
А ўсяго — каб пусцілі напрост —
Трыста метраў.
Што, каб рэчцы прарыць новы ход?
Разважаю —
Колькі дасць ён выгод, невыгод —
Падлічаю...
Горку я аглядаю: а што
За яна, што за глеба?

Пракапаць-бы ўсяго метраў сто —
Больш не трэба...
А далей — роў сыходзіць уніз,
Пад гарою,
А над ім арахоўнік навіс,
Нібы ўжо над вадою, —
З двух бакоў для ракі берагі
Травяныя.
А далей? Шлях вядомы — лугі
Заліўныя.
Колькі-ж рэчцы пятляць і кружыць
Па жаданню прыроды?
А ці нельга вось так і зрабіць:
Просты ход ёй праз горку прарыць,
Рэчку рэчышчам новым пусціць
Назаўсёды?..
Каб па-новаму рэчка цякла
Для людскога дабра, для святла,
Каб пятляць не пятляла,
Каб турбіны круціла яна,
Каб з цямна да відна,
Каб з відна да цямна
Не сціхала,
Святло выраблял а?..

З лазняка, з хмызняка
Робіць петлі рака
Па-старому.

З нецярплівасцю Шайпака

Я чакаю дадому.
З Зосяй — гэтак дачку яго зваць
Ходзім полем і гаем,
Берагі, лугі, сенажаць,
Граблю, гаць
Аглядаем.

Дзве вярсты і яшчэ дзве вярсты —
Лесавая дарога.
Мы згадзіліся ўжо на ты
Зваць адзін другога.
Так лягчэй на дарозе лясной
Пні мінаць і калоды.
Можа крочым і тут мы з ёй
Па шляху да згоды?
Можа блізка і тут яна
Так, што можна ўбачыць?
Можа згода — вунь тая сасна,
Што на ўзгорку маячыць?

Можа будзем ісці мы пад ёй
І не знаць, як заўсёды,
Што праходзім мы не пад сасной
А пад сховамі згоды?
Хто нам скажа, што гэта яна?
Сцежка міма віецца...
І адна і другая сасна
Убаку застаецца.
Лёгка нам ісці і мінаць
Пні, кусты ды палянкі

На тых сцежках, якія ляжаць
Уздоўж рэчкі Пятлянкі.
Я вясёлым сцяжынкам рад —
Тройчы высах і вымак.
Быццам з ёй мы прымаем парад
Каласоў і травінак.
Колькі дружных прайшло палкоў,
Рот пратупала міма?

Толькі дзе-б я ні быў, ні ішоў,

Тая горка, той роў —
У мяне прад вачыма.
Мне здавалася: дзе-б ні ішлі,
Хоць праз нетры сасновыя,
Нас не сцежкі вялі,
А ўсё рэчышчы:
                    новыя,
                              новыя.
Быццам з ёй па сцяжынцы такой
Мы шумлівай вадой
Беглі,
          гучна гамонячы,
Міма новых кустоў
Новым рэчышчам слоў
Весялосць сваю гонячы.
Поўны новых надзей,
Мы не так, як раней,
Беглі полем, дубровою.
І наперадзе ў нас —
Новы шлях,
                    новы час,
Справы —
          новыя,
                    новыя...

**3**

Каля ганка рака
Петлі ўе з лазняка,
З хмызняка
Па-старому...
Прычакаў Шайпака
Я, нарэшце, дадому.

На машыне пад дом падкаціў гаспадар,
Разам з ім — сакратар
Райкому.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тут прарабам Шайпак працаваў
          да вайны,
Дваццаць год і масты будаваў

І млыны...
Загрымела вайна,
Чорны дзень надышоў
Для яго, для ягоных
Мастоў і млыноў.
Хіба бачыць прыемна
Прарабу было,
Як праз мост яго
Немцы ўязджалі у сяло?
Хіба слухаць прыемна
Было Шайпаку,
Як малолі млыны яго
Немцам муку?
Лепш пусціў-бы з агнём
сваю працу да хмар.
Ён пакінуў свой дом,
ён падаўся ў гушчар.

Стрэўся там з Шайпаком
першы раз сакратар.

Сакратар не распытваў —
Чаго ён прыйшоў,
Гэта ўсё
Зразумела было і без слоў.
Гэта ўсё расказаў
шум дажджу, ветру свіст,
Дуб, які іх схаваў
пад свой дах, пад свой ліст.
— Комуніст?—сакратар запытаў.
— Комуніст.
Аўтаматы пад дрэвам
Ляглі, як сябры.
Смела ўдвух запалілі
Цяпло ў гушчары.
Быў з іх кожны
Сустрэчы даверліва рад:
Комуніст комуністу —
Як брату брат.
Хай іх покуль што мала —
Няхай яны ўдвух,

Ды ўжо імі прыведзена
Полымя ў рух.
Ды ўжо кінулі
Полымя ўгору яны,
Спяць ужо, як салдаты, —
Спіна да спіны.
— Комуніст?
— Комуніст... — як прысягу далі.
Тут — іх дом,
тут — райком,
месца іх на зямлі.
Пушча ўправа і ўлева —
іх месца, іх дом,
А пад сховамі дрэва
працуе райком.
Пень шырокі — іх стол,
рэха — іх тэлефон.
Немаленькі вакол
ім належыць раён.
І, здаецца, не дзятлы,
а ўжо друкары
Друкавалі іх заклік
на лепшай кары.
Мужны заклік райкома —
Радзімы загад.

Сто штыкоў ужо меў
Цераз месяц атрад.
І нямала Шайпак
Рэк наведаў і сёл,
Пад масты пад свае
Падкладаючы тол.
А прыходзіў з задання —
спаць клаўся ў кустах,
Уздыхаў аж да рання
па быўшых мастах.
Па мастах, па млынах —
Працы доўгіх гадоў:
— Хіба я па сабе
Не пакіну слядоў?

Марыў ён перад самым
Пачаткам вайны
Будаваць гідрастанцыю ўжо —
Не млыны.
Зноў забытая мара
У ім ажыла,
Зноў памкнулася
Сэрца яго да святла.
І рашыў будаваць
Неспакойны салдат
Гідрастанцыю
На трыццаць пяць кілават.
Ён і месца абраў,
Дзе-б стаяла яна —
На Пятлянцы,
На месцы былога млына.
Ён збудуе —
Хай скончыцца толькі вайна.
Ён у станцыю ўсё
Сваё ўмельства ўкладзе,
Каб стаяла, як лялька,
Яна пры вадзе.
Каб была збудавана
яна для патрэб,
Зерне каб сартавала,
малаціла хлеб.
Каб з яе і ў сяўбе
карыстаўся калгас,
Збудаваў каб сабе
ён яе на ўвесь час.
Сто гадоў каб магла
сартаваць, малаціць,
Каб хапала святла
вокны ёй залаціць.
Каб відны былі ў ёй,
нібы ў кроплі малой,
Днепрабуды
радзімы вялікай усёй.
Што ж? Вайна адгрымела,
і можа цяпер
Здзейсніць смела

прараб свой даўнейшы намер.
Спраўдзіць мару, —
Каб станцыяй стала яна
На Пятлянцы,
На месцы былога млына.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**4**

Нас знаёміла Зося
і ўсіх нас вяла,
Як пры стрэчах вялося,
у дом, да стала.

Хутка гутарка
Блізкіх кранулася тэм,
Справы той,
Што для ўсіх нас цікава.
— Значыць, хутка пачнем будавацца
— Пачнем.
— Пабудуем?
— Вядомая справа.
— Трыццаць пяць кілават
Гэта, праўда, няшмат, —
Шкадаваў сакратар асцярожна.
— Больш не можна ніяк, —
Шкадаваў і Шайпак.
Але тут я не вытрымаў:
— Можна!..
Можна станцыі моц павялічыць.

— На шмат?

— І да ста кілават,
І да ста пяцьдзесят.

— Што за дзіўная рэч яшчэ?
Цяжка ўявіць...

— Трэба новае рэчышча
Рэчцы прарыць.

— Тут патрэбны разлікі,
Не толькі запал...

— Пракапаем глыбокі
Праз горку канал.

— А ці будзе трывалы ён
У берагах?..

— Забрукуем канал мы
Каменнем, як шлях.

— На такія выдаткі
Ці пойдзе калгас?..

— А хіба на Пятлянцы
Адзін ён у нас?
Выйдуць дружнай сям'ёю
калгасы...

Аднак
Пагадзіцца са мною
не можа Шайпак.
Мне здалося, і Зося
Згаджаецца з ім
І не верыць, здалося мне,
Планам маім.
Ды і як ёй паверыць? —
Яна не магла.
Зося мараю бацькі
З маленства жыла.
Партызанам як быў ён,
Аб мары сваёй
Ёй падоўгу расказваў
У лесе, малой.

— Нерэальная справа, —
Сказаў гаспадар.
Але думкі інакшае
Быў сакратар, —
У машыну садзіўся,

пытаўся ў мяне:
Дзе радзіўся, вучыўся,
партыйны ці не?
Падтрымаць мяне — стала
паабяцаў.
І паехаў. Нямала
было ў яго спраў.

...Плыў далёкі дымок
З палявых каляін...

Я надоўга ў бакоўцы
Замкнуўся адзін.
Мне — сядзець над праектам
І днём і ўначы.
Я павінен да раніцы
Перамагчы.
— Комуніст? — Комуніст. —
І адказам такім
Шмат чаго гаварыў я
Сабе і другім.
Комуніст не ахвочы
спакою сабе,
Дні і ночы
у працы ён і ў барацьбе.
Ён аб будучым дбае,
Аб часе, калі
Комуністамі будуць
Усе на зямлі...
Сёння ён — будаўнік,
Дбае ён аб адным,
Каб служылі турбіны
І нашчадкам там,
Недарэмна ён дбае,
працуе як след,
Каля сэрца трымае
партыйны білет.
Партбілет — гэта пашпарт яго,
Па якім
Ён даўно ўжо
Прапісаны ў будучым тым.

Дзень мінуў, як мільгнуў,
Ноч мінула даўно.
Адчыніў з перамогай
Я насцеж акно.

Спіць Шайпак. Спіць і Зося,
Не знае яна,
Што рака больш не будзе
Плысці ля акна.

Паплыве яна рэчышчам
Новым зусім,
А пясчанае дно яе
Стане сухім.

Знаць не знае вярба
Аб прыгодзе такой,
Што стаяць больш не будзе
Яна над вадой.

Мост не знае таксама —
Адкуль яму знаць? —
Што не будзе Пятлянка
Пад ім булькатаць.

Гэта ўсё аднаму мне
Вядома, відно.
Нібы ў заўтрашні дзень
Адчыніў я акно.

За акном на вярбе
Не шалохнецца ліст,
Ранак доўгачаканы
І чыст, і празрыст,
І мне радасна ведаць,
Што я — комуніст.

**5**

Атрымаў я з канторы
Жаданы адказ.

Сельэлектро —
Кантора ёсць гэткая ў нас.
Ёй жыццё наша
Назву такую дало, —
Паеднаўшы ў той назве
Сяло і святло.
Ёсць такая ў сталіцы
Кантора з кантор,
За сталамі якой
Дыша сельскі прастор.
Хвалі мае свае яна
І берагі,
Што ні дзень там размовы —
Пра лес, пра лугі.
Я гатоў
Скласці песню ўрачыстую там
Электрычнаму току
І правадам...
— Ты трымаеш, кантора,
ў сваіх берагах
Рэкі тыя, што ў мора
кіруюць свой шлях.
Шлях, што рэкі праклалі,
ты можаш змяніць,
Новым рэчышчам хвалі
ты можаш пусціць.
Слаўлю я цябе ў словах,
кантора, цяпер
Не за колькасць службовых
лістоў і папер,—
А за колькасць тых лямп,
Што сваёю рукой
Запаліла ты тут
Пад калгаснай страхой,
А за тое, што хочаш
Ты сцерці мяжу
Паміж вёскай і горадам, —
Так я скажу.

Атрымаў я з канторы
Жаданы адказ...

Два праекты гатовыя
Маюцца ў нас.

А каторы з праектаў
Ухваліць калгас?

Тут, на сходзе,—
З суседніх калгасаў народ.
Сакратар гэтак сама
Прыехаў на сход.
Каля ціхае рэчкі,
          дзе дрэмле лаза,
Разгарэліся спрэчкі:
          хто — супраць, хто — за

Хто казаў:—Хопіць з нас
Трыццаць пяць кілават...
Хто:—Канал патрабуе
Выдаткаў зашмат.
Колькі ўкласці патрэбна
Туды працадзён!?
Колькі працы людской —
Ці акупіцца ён?
Гэта — новая справа
Для ўсіх нас зусім.
Ці не лепш на праекце
Спыніцца старым,
На праекце
Таварыша Шайпака?
Хай цячэ па-ранейшаму
Наша рака...

Хто казаў:— Апроч станцыі
Працы ў нас шмат.
Колькі новых паставіць
Павінны мы хат?
Час выходзіць даўно нам
З зямлянак на свет,
Аб уласным аб доме
Падумаць як след.

Не ў зямлянкі-ж праводзіць
Мы будзем святло,
Не быльнёг будзем мы
Асвятляць, а сяло.

З новым рэчышчам
Мы пачакаем яшчэ...
Па-старому няхай
Наша рэчка цячэ.—

Гэты сход параўнаць
Я з вагою магу, —
Мы прынеслі праекты
Свае на вагу.
Мой праект мы паклалі
На шалях адных,
А прарабаў—на іншых,
Што супраць маіх.
Выступалі прамоўцы —
Адзін і другі,
Быццам кідалі словы
На шалі вагі.
І ў залежнасці поўнай
Ад важкасці слоў,
Мой праект альбо ўніз,
Альбо ўгору ішоў,
Быў цяжкім ці ўзлятаў,
          як пярынка да хмар,
Покуль слова свайго не сказаў
          сакратар.
Ён на чулыя шалі —
          у сэрцы людзей —
Кідаў словы
          за іншыя словы цяжэй:
— Праўду тут гаварылі, —
Казаў ён, — аб тым,
Што пара нам аб доме
Падумаць сваім.
Як салдаты, дагэтуль
Жывем мы ў зямлі.
Мы з вайны яшчэ з вамі

Дамоў не прыйшлі.
Мы жывем у зямлянках,
Зямлянка — не дом.
Мы салдаты, наш фронт —
На сяле, за сялом.
Што ні дзень, то вайна ў нас
За хлеб, за ўраджай,
Каб ізноў стаў заможным
Разбураны край.
Ну, а станцыя —
Гэта не фронт наш хіба?
Наша рэчышча, што гэта —
Не барацьба?
Гэта бой, барацьба
За святло над сталом.
Дом, дзе свеціць лучына, —
Не наш гэта дом.
Дом наш — светлае шчасце
Людзей на зямлі.
Яшчэ з вамі
Мы ў доме сваім не былі,
Але будзем!.. Пагляд
Кіньма ў будучы час, —
Трыццаць пяць кілават
Сёння мала для нас...
Мы, — казаў ён,
Ледзь стрымліваючы пачуццё,
Новым рэчышчам
Наша кіруем жыццё.
Дык хіба-ж мы не здолеем
Дружнай сям'ёй
Скіраваць нашу рэчку,
Падужацца з ёй?
Хто казаў, што не хопіць
У нас працадзён?
Мы паставім на ногі
Увесь наш раён.
Рэчку нашу народ
　　　　шляхам пусціць другім,
Каб было на шмат год
　　　　электрычнасці ўсім.

Скончыў ён гаварыць
І відаць было ўсім:
Пераважваюць шалі
З праектам маім.

Стала ціха. Да сходу
          звярнуўся прараб.
— Нам прыйсці ўжо да згоды, —
          сказаў ён, — пара-б.
Я праект свой здымаю —
          ёсць лепшы, другі,
Сам упэўніўся, знаю —
          праект не благі.
Два маіх ён заважыць —
Хоць кінь на вагу.
Вы будуйце...

— А ты што?
— А я не змагу.

— Ты няпраўду гаворыш,
Таварыш Шайпак...
— Можаш: рукі ў цябе
Залатыя, зямляк...
— Ты-ж млыны і масты
Будаваць быў мастак...
— А цяпер ты не можаш —
Тут нешта не так...
— Растлумач...
— Што-ж тлумачыць? —
Азваўся Шайпак, —
Гэта ўсё зразумела,
Па-мойму, і так...
Марыў станцыю я
Будаваць для людзей,
Як магу, невялічкую,
Як найпрасцей.
Думаў: будзе, як лялька,
Стаяць пры вадзе...
Памыліўся.

Жыццё наша ўперад ідзе.
Мне не шкода, што ёй
Пры вадзе не стаяць,
Шкода — новую
Я не магу будаваць.
Гэта новая станцыя —
Верце ці не —
Мара большая, лепшая
І для мяне.
Ад яе не адмовіўся-б,
Як ад свае,
Ды не хопіць мне ведаў,
Каб здзейсніць яе.
Праўда, хоць і вучыўся я
После вайны —
Быў на курсах —
Ды тут не памогуць яны.
Гідрастанцыя наша —
Не мост над вадой. —
Ён сказаў. І да нас
Павярнуўся спіной.
Развітаўся ён толькі што
З марай былой.

## 6

Першым чынам за ўзгоркам,
На месцы сухім,
Збудавалі мы дом —
Будзе станцыя ў ім.
А пасля .замільгалі
Лапаты ў зямлі —
Мы праз горку да рэчкі
Канал павялі.
Брукавалі каменнем
  яго берагі,
Бой вялі мы з цярпеннем
  за метр, за другі.
Бой за новы фарватар
  вялі не адны —
Нам прыслаў экскаватар
  завод тарфяны.

Метр апошні, метр соты
быў святам для нас —
Земляныя работы
канчалі якраз.
Дружна дамбу ўзяліся
Рабіць на зары —
Загараджвалі мы
Шлях Пятлянцы стары.

Нашым рэчышчам новым,
Прарваўшы заслон,
Рэчка хлынула шумна,
Як стада ў загон.
Збажына зажаўцела
сцяною над ёй,
Хваля жыта шумела
над хваляй рачной.
Беглі ўсе грамадой —
люба ўсім паглядзець
За імклівай вадой
паспяваючы ледзь.
Праз канал яна хлынула
З гулам у роў.

Роў арэшыны
З двух абступілі бакоў.
У здзіўленні навіслі
Яны над вадой —
Першы раз там сустрэліся
Самі з сабой.
Мы таксама
Глядзелі ў люстраную гладзь,
Нам сябе
Было радасна ў ёй пазнаваць.
Беглі ўслед мы шчасліва,
дагнаць не маглі —
Рэчка бегла імкліва
далей у палі.
А адтуль, заліўныя
мінуўшы лугі,
Рэчка ўбегла ў былыя

свае берагі.
Пырскі пены вакол —
На кустах, на траве —
Гэта знакі,
Што рэчышча наша жыве.
Слаўлю я цябе, рэчышча,
У сціслых радках —
Бо ты ў новых трымаеш
Раку берагах.
Па дарозе тваёй
Зелянеюць гаі,
Ты іх, рэчышча,
Новай вадой напаі.
Сіл дай свежых дубровам,
пахілай вярбе.
Нашым рэчышчам новым
мы клічам цябе.
Не прыродай ты створана —
Старай вадой,
А ты створана сілаю
Новай людской!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось яна — навіна
для дачкі Шайпака —
Як раней, ля акна
не цячэ ўжо рака.
Не пабачыць акну
Больш былое вады,
Ад акна адвялі мы
Яе назаўжды.
Гэта ўсё адбылося
па плану майму.
Ты не верыла, Зося,
здаецца, яму?
Хочаш вер ці не вер —
справа, зрэшты, твая.
Што-ж ты скажаш цяпер? —
запытаюся я.

За той дамбай, якой

Мы ваду адвялі,
Мы ўжо сёння плаціну
Рабіць пачалі.

**7**

У звычаі старым,
Працавіты народ
Свята Новага года
Святкуе штогод.
А чаму-б не адзначыць
Людзям маладым
Свята Новага рэчышча
У клубе сваім? —
Азірнуцца
На пройдзены ў працы этап
І адзначыць —
Гармонікам з бубнам хаця-б.
Пасля ўступнай прамовы,
што сам я сказаў,
Аж да раніцы слова
гармонік узяў.
Шмат хто быў тут — з калгасу,
з пасёлка, з сяла.
Я заўважыў адразу —
і Зося прыйшла.
Я не мог не прыкмеціць
сукенкі тае —
Цэлы месяц
як я ўжо не бачыў яе.
Як з'явілася
толькі яна ля дзвярэй,
Мае сэрца забілася
ў грудзях гучней.
З гарманістам, шчаслівы, я сеў
ля акна,
Увесь вечар глядзеў,
як скакала яна.
На адходзе, на золку
я к ёй падышоў,
Папытаўся дазволу
правесці дамоў

Мы пайшлі з ёю. Сонца
Яшчэ не ўзышло.
Ёй у лёгкай сукенцы
Халодна было.
Пінжачок свой на плечы
ускінуў я ёй.
Мы ішлі з ёй над рэчкай
сцяжынкай былой.
Над Пятлянкаю слаліся
тыя шляхі,
Дзе пайсці мы ўмаўляліся
па арахі.
Ці ты помніш, дзяўчына,
Аб часе аб тым,
А ці знік, можа,
След яго ў сэрцы тваім?

Дзве вярсты мы прайшлі
І яшчэ дзве вярсты —
Мы мінулі паляны
І пні і кусты.
Сонца ўстала з зямлі.
Лес ажыў ад святла.
Пацяплела. Ты мне
Пінжачок аддала.
Узышлі мы на мост —
Вунь твой ганак, твой дом.

Ранак рэчышча белым
Укрыў туманом.
І за ім не было нам
Відно і чутно —
А ці ёсць там рака,
Ці няма ўжо даўно?

Ты скажы мне,—
А што ў тваім сэрцы чуваць?
Можа з рэчышчам
След мне яго параўнаць?
Можа ў ім —

Ты скажы мне, калі не сакрэт,
Гэткі самы туман,
А ракі знік і след?
Можа тая рака —
А куды, а чаго? —
Мкнецца толькі
Па рэчышчы сэрца майго?

Я стаяў і маўчаў.
Запытацца ці не?
Але духу, відаць,
Не хапіла ў мяне.
Я спытаўся — і голас
Быў ціхі, глухі:
— А калі ўжо з табой
Пойдзем мы ў арахі?

З кожнай хвіляю
Ростані блізіўся час.
Адказала мне:
— Мець
Будзеш сёння адказ. —
Быў спакойным, рашучым,
Упэўненым тон,
Не адказ азначаў—
Штосьці большае — ён.
Штосьці важнае
Ён, гэты тон, азначаў
Для цябе, для мяне.
Але што?
Я не знаў.
— Як-жа бацька? Як маецца?
Я запытаў.
— Бацька, — ты адказала, —
такі-ж, як і быў.
Сам ты знаеш — нямала
Шайпак пераажыў.
Як ён марыў! —
А што засталося ад мар?
Для яго, зразумела,
Цяжкі гэта ўдар.

Бацьку бачыла гэткім
І я ўпершыню.
Але ў тым я, вядома,
Цябе не віню.
Аднаго-б я хацела
        табе пажадаць —
Нашу станцыю ўмела,
        як след, будаваць.
Так будуй, як задумана,
        не забывай:
Не змагла-б даравацць
Я няўдачы... Бывай!
Ад маета нас вялі,
        разлучыўшы, шляхі.
А калі, а калі
        пойдзем мы ў арахі?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сёння дзень у нас вольны —
Выходны якраз.
Атрымаў я па пошце
Ад Зосі адказ.
Зося сцісла, каротка
Пісала аб тым,
Што яна пакідае
Свой дом назусім.
Бацька едзе ў сталіцу,
        а з ім і яна.
Будуць разам вучыцца —
        дарога адна.
Не, Шайпак не расстанецца
        з марай сваёй,
Будзе станцыі
        ставіць і ён над вадой
Вось і ўсё...
Я спяшаўся,
        чытаў на бягу,—
Можа быць, спадзяваўся,
        застаць іх змагу?
Ды спазніўся, вядома.
Ужо на двары

Завіхаліся новыя
Гаспадары.

Не відно тых фіранак,
Не той ужо дом,
Хоць і грэўся кацёнак
Той самы за шклом.

Я пайшоў. Пад мастом
Не бурліла вада.
Сэрца сціснула жалем —
Чаго мне шкада?

Як ішоў, быў гатоў
З сэрца вырвацца крык.
А як ганак той хаты
З вачэй маіх знік,
Я не знаў — да каго
Больш за ўсё тут прывык:
Ці да ганка таго,
Ці да хаты самой,
Ці да той .
Гаспадыні яе маладой.

**8**

Я з адказам такім
луг мінаў, як у сне.
Зося! Адрасу ў ім
ты не кінула мне.
Пэўна ты не жадаеш
Са мною сустрэч,
Забываеш сустрэчы,
Вядомая рэч.
Вось які я адказ
Атрымаў ад цябе.
Так. А што адкажу
Сам я той вунь вярбе?
Той знаёмай вярбе,
Што стаіць над вадой,
Той вадзе,
У якую глядзелі з табой?

Кветкам тым, што з табою
Быў бачыць я рад?
Каласам, што ўжо выстраіліся,
Як на парад?
Як я выйду да іх,
Што ў адказ ім скажу?
Хіба я ім ліста твайго
Не пакажу?
Ліст твой адрасаваны
Не мне аднаму,
А й — табою забытаму —
Дрэву таму.
Ты яго напісала
й арэшыне той,
Да якой абяцала
прыходзіць са мной.
Праз хмызняк, праз лазу,
проста з дому твайго,
Я твой ліст ім нясу.
Хай чытаюць яго.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спыніўся юнак
пасяродку лясное паляны
З лістом у руках,
што арэшынам адрасаваны.

Арэшыны густа з бакоў
юнака абступілі,
Развесілі вушы лістоў
і ў чаканні застылі.

— Бывайце, арэшыны, —
ліст ім дзяўчына пісала, —
Да вас я прыйсці не прыйшла,
хоць прыйсці абяцала.

Мяне вы дарэмна чакалі,
гасцінныя дрэвы,
Свае арахі зберагалі
дарма для мяне вы.

Арэшыны слухаюць,
нізка схіліўшы галовы.
— Бывайце, бывайце!—.
гучаць развітальныя словы.
Чытае юнак...
на забытыя сцежкі лясныя
З арэшын, як слёзы,
ляцяць арахі залатыя.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я стаю перад рэчышчам
Перад старым,
Нібы перад чыімсьці
Каханнем былым.
Дно травою
паспела тут скрозь парасці,
Ціна стала сухою
на сонцы ў трысці.
Ці не так і каханне? —
Не вечна яно—
Забыццём, як травой,
Зарасце яго дно.
І з дарэмнай надзеяй
Над гэтай травой
Нехта будзе схіляцца,
Нібы над вадой.
Мост, што тут збудаваны,
Нібы на вякі, —
Што ён значыць,
Калі ён адзін, без ракі?
Не хачу быць вярбою,
Мастом быць такім
Па-над высахшым
Рэчышчам гэтым старым.
Калі быць — дык мастом
Над імклівай вадой,—
Каб каханне цякло наша
Рэчкай жывой.
Рэчкай той, што бясконца
наперад плыве,

Адбіваючы сонца
ў сваёй сіняве.
Сілай той, што турбіны
прыводзіць у рух,
Жывіць пушчы, даліны
і поле і луг.
Як такім будзем бачыць
каханне ў жыцці,
Што яму будзе значыць
той адрас знайсці?

**9**

Так. Паехала Зося,
Яе не відно...
З ёй і сонца за хмарамі
Знікла даўно.
З неба льюцца бясконца
і дзень і другі,
Замест променяў сонца,
струменні тугі.
Льецца дождж. Быццам хоча
ён змыць назаўжды
З усіх сцежак навокала
Зосі сляды.
Змыць сляды каля хаты,
змыць з ганка, з двара.

Дзень чацвёрты і пяты
ён лье, як з вядра.
Па размытай дарозе,
а дзе й нацяньці,
Я ў трывозе
спяшаюся да ракі.
Мне чуваць, як з узгоркаў
бурліва цякуць
Ручаі, у раку
несучы каламуць.
Горай, як па вясне,
разлілася яна.
Яшчэ здалёку мне
плынь рачная відна.

Заліла яна долы
і грэблю і гаць.
Наша дамба ці здолее
рэчку стрымаць?
За той дамбаю нашай
плаціна ўстае...
Як ад грознай вады
бараніць нам яе?

Я стаяў каля граба,
Сачыў за вадой.
Хмары падалі ў завадзь
Адна за другой.
У раку ўсё лілася
I муць і імгла.

Бег назад я. У сэрцы
Трывога расла.
Закілзала трывога
каня за ракой,
Выбівала трывога
з дарогі спакой.
Людзям грукала ў дзверы
зямлянак і хат,
Звала ўсіх да сякеры,
да вострых лапат.
Потым бегла з людзьмі
да ракі праз гаі,
Абганяючы вецер,
дажджы, ручаі.

А ўжо там, а ўжо з дамбы —
Спяшай не спяшай —
На плаціну лілася
Вада цераз край.
Буйны павадак дамбу
Нашчэнт разнясе, —
Гэта бачылі ўсе,
Гэтак думалі ўсе.
Сваю справу паволі
Рабіла рака.

Хтосьпрамовіў: —Шкада,
Што няма Шайпака,
Ён-бы ўраз...
І глушыла
Размову вада,
Што праз нашую дамбу лілася...
— Шкада!
І адчуў я, што людзі
Глядзяць на мяне.
Я для іх — камандзір.
Тут яны — на вайне.
Камандзір — то бясстрашны ў баю
Чалавек,
Камандзір — не палохаецца
Небяспек.
Камандзір — правядзе
Праз любую бяду.

І павёў за сабой
Я людзей у ваду.
Узяліся рашуча
за зброю яны.
Хто з далёкае крушні
цягаў валуны,
Хто нёс дошкі з плаціны,
шалёўкі, шчыты,
Хто галіны,
ссякаючы ў лузе кусты.
Не пускалі ваду
На плаціну — хто чым —
Хто шчытом, хто галлём,
А хто целам сваім.

Мы адбілі напад...
Але вораг жыве, —
Пойдзе зноў на плаціну
Праз гадзіну,
Праз дзве.
Адпачынку ні хвілі
Не мае народ.
Мы капаем канаву

Плаціне ў абвод.
Да старога да рэчышча
Шлях я вяду,
Каб туды па канаве
Спусціць нам ваду.
Вораг зноў нас трывожыць...

Ужо да ракі
З плачам, крыкам
Бягуць ад сяла хлапчукі.
Там цяпер залівае
Зямлянкі вада,
Загула ад такой
Навіны грамада.
Гіне скарб чалавечы—
плён працы цяжкой,
Гіне хлеб, гінуць рэчы —
наш дом — пад вадой,
Фотакарткі, што ў доме
вісяць на сцяне.
Вораг нішчыць усё...

Што-ж? Мы тут — на вайне.
І належыць нам
Поўны захоўваць спакой.
Мы не пойдзем дамоў.
Мы не скончылі бой.

Мы не скончылі
Працу сваю да начы.
Запалілі ўначы
Смаляныя карчы.
Працавалі
Пры вогнішчаў яркім святле,
Слыхам сочачы
Ворага ў чорнай імгле.
І трывога ад сэрцаў
Тады адлягла,
Як з ракі па канаве
Вада загула.
Першы раз тады жарты

Былі ў нас чутны,
Першы раз тады ўсмешкі
Былі ў нас відны...

І пайшоў я,
Хістаючыся, як п'яны.
Мокры, стомлены лёг
пад вярбой ля агню.
Адпачыць ад трывог
мог і я ўпершыню.
На руках у байцоў
след вады і зямлі.
Пасля бою дамоў
яны з песняй ішлі,
На лапатах —
на зброі сваёй — несучы
Незгасальныя вогнішчы
гэтай начы.
Перамогу яны
Здабылі ў барацьбе,
У змаганні
За новы агонь для сябе.
Прыйдуць сёння яны
Са здабытым агнём
Не ў зямлянку сырую,
А ў новы свой дом.
Яны ў дом прынясуць
Той жаданы прамень,
Каб свяціў ён з іх вокнаў
У будучы дзень.
Каб, згасіўшы лучыну,
упаў той агонь
І на сшытак іх сыну
і ўнуку на скронь.
І не ў кошыках,
гэтак, як прадзеды іх,
Яны ў сэрцах нясуць
жар агнёў дарагіх.
Не сабе яны толькі
агні здабылі,
А для ўсіх жыхароў

неабдымнай зямлі.
Глянь на пройдзены пуць,
на іх рукі зірні...
Яны ў сэрцы нясуць
Комунізма агні.

**10**

Мы ў вялікае свята —
Кастрычніка дні —
Запаліць рыхтаваліся
Нашы агні.
Скрозь электраманцёры
на новых слупах
Электрычныя зоры
трымалі ў руках.
Ім ударнай багата
работы было —
У калгасы да свята
правесці святло.
Ды і іншым таксама
Было яе шмат —
Упрыгожвалі станцыю
Людзі да свят.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дачакаліся ўрэшце
Святочных мы дзён.
На Кастрычнік сабраўся
Увесь к нам раён.
Госць прыехаў з райкома,
не быць тут не мог,
Сакратар наш, вядома—
ён шмат нам памог.
Каб лічыў, дык усіх
Не злічыў-бы ніяк.

І зусім нечакана
З'явіўся Шайпак.
Ён прыехаў адтуль,
Дзе вучыўся з дачкой, —
Расказаў аб жыцці,

Аб вучобе сваёй
І аб мары прараба,
Што ў сэрцы жыла.
Гэта мара
Яго і сюды прывяла.
Пры народзе пры ўсім
тут-жа, каля машын,
Абняліся мы з ім,
быццам бацька і сын.
Ён пра нашае свята
Дазнаўся з газет.
Ён прывёз мне ад Зосі
Сяброўскі прывет.
Мне не церпіцца
Адрас хутчэй запісаць,
Калі можна...
— А як-жа!
Прасіла пісаць!..
Вось і адрас!..
Грымелі
Машыны, пасы:
— Напішы, напішы!
Напішы, напішы!
Ад машын, за акном
Асвятляючы шлях,
Ток пабег, як па жылах,
Па правадах.
А па жылах, як ток
Па сваіх правадах,
Кроў пабегла,
Агонь запаліўшы ў вачах.
Напішы!..

І пісаў я ўначы над сялом
Не чарніламі,
А электрычным пяром.
Неслі ліст правады
Над прасторам зямлі,
Ліст кахання і працы,
Што перамаглі.
Не адзін я,

Пісалі мы ўсе над зямлёй
Ліст любімым сваім,
Ліст радзіме сваёй.

*1948 г.*

## ТОЛЬКІ УПЕРАД

Но вы, друзья, кто там, кто там
У дела по своим постам.
Вы в одиночку, как и я,
В родные ездите края.
Наш год. наш возраст самый тот,
Что службу главную несет.
А. Твардовский.

**1**

Я прыехаў дамоў
да зялёных дуброў,
У той край, дзе не быў
восемнаццаць гадоў,
Дзе радзіўся, дзе рос,
да знаёмых мясцін,
Да забытых сцяжын,
палявых каляін.
Я прыехаў адзін...

Я шукаў, не знайшоў
Сваіх даўніх таварышаў,
блізкіх сяброў.
Дзе яны? Той,—даведаўся я,—
генерал,
Дзесь далёка...
другі выплаўляе метал
На Урале, а трэці —
лятае, герой,
Ён заняты ўвесь час
на зямлі, над зямлёй,
З неба родным мясцінам
махае рукой.
Рэдка дома, — пачуў я, —
бываюць яны.
Ну, а шмат хто
зусім не вярнуўся з вайны.

Я не ведаў спакою
і дзень і другі,

Абышоў усе сцежкі,
гаі і лугі,
Ды нідзе не пабачыў
сяброў дарагіх.
А на трэці дзень
стала мне сумна без іх.

Без сяброў дарагіх —
і дубровам не рад.

Прызнаюся, хацеў я
вярнуцца назад.
І вярнуўся-б, калі
не даведаўся ў час,
Што на Бесядзі,
сем кіламетраў ад нас,
Электрычную станцыю
ставіць калгас.

Электрычная станцыя —
не навіна,
Сёння шмат іх па рэках стаіць,
не адна,
Але ўсё-ткі,
калі свае сцены яна
Уздымае ў знаёмым
з маленства трысці,
Міма станцыі гэткай —
ці зможаш прайсці?
Пазбірала яна
каля светлай вады
Навакольных студэнтаў —
народ малады.
Хоць канікулаў час,
але ім не да іх —
Прага ў іх баявая
да спраў баявых,
Сіла ў іх... закасалі
вышэй рукавы,
Выйшлі разам
з калгаснікамі ў паплавы.

Тут хлапцы і дзяўчаты
з самое Масквы,
З мінскіх пединстытутаў,
з вучылішч Баку,
Выйшлі ўсе будаваць,
працаваць на раку.

Ну, а я? Хіба мог
заставацца ў баку?
Я таксама студэнт,
што з таго, што былы
І што тэрмін
майго адпачынку малы?
Калі быў я такім,
як яны, юнаком,
Я не марыў хіба
будаваць гэты дом?
Веру я і цяпер,
веру так, як яны,
У святло Ільіча,
што з вясны да вясны
Азарае ўжо сонечна
край мой лясны.
Цэлы год працавалі
тут сотні людзей,
Забіваючы палі
сасновыя ў глей.
Гэтым летам штодня тут
з зары да зары
Майстравалі плаціну
і дом цесляры.
Стала блізкай мне, роднай
студэнтаў сям'я.
З маладымі сябрамі сваімі
штодня
Працаваў я, а ўвечары,
так, як яны,
Я на гукі баяна
спяшаў да сасны.
Там стаяў, прысланіўшыся
ціха да дрэў,

Усю ноч
і на хуткія пары глядзеў
Ды на месяц, што іх
асвятляў з вышыні,
Абуджаючы ў сэрцы
юнацкія дні...

Не сцмхау лета цэлае
гоман і смех.
Гэтак я не заўважыў,
як месяц прабег.

Час раз'ездаў настаў...
Што ні вечар даўжэй
Развітальныя вальсы,
што вечар цішэй
Развітальныя шэпты
засмучаных пар.

У жытное прайдзіся,
у луг, альбо ў яр —
Ад вачэй
закаханых хаваюць кусты.
Ты ідзеш... Цішыня...
І не ведаеш ты:
Шэпчуць вусны таемна вакол
ці лісты?
Сэрцам чуеш, аб чым
размаўляюць яны:
Там прызнанні у каханні
да самай труны,
Там гавораць аб будучым
шчасці сваім,
Аб сумесным жыцці,
аб жыцці маладым.

Час і мне ад'язджаць...
І што вечар цяжэй
Мне на сэрцы, што вечар
даўжэй і даўжэй
Я над рэчкай сяджу

і не зводжу вачэй
З тога бору... Гляджу
на гушчар за ракой,
За якім дом дзяўчыны,
дзяўчыны адной...
Цэлы месяц адтуль,
цэлы месяц адтуль
Чуў я з гэтага берагу
кукаванне зязюль.
А цяпер яны сціхлі,
сталіся зваць.
Сціхла рэха ў бары,
але ў сэрцы чуваць.
Але ў сэрцы чуваць,
кліча, кліча без слоў
У дарогу...
І вось, у адзін з вечароў
Я не вытрымаў:
Бесядзь уброд перайшоў.

**2**

Як на бераг выходзіў,
мне ногі абпёк
Успамінам гарачым
халодны пясок.
Ногі босыя,
хоць і ідуць наўздагад,
Але цвёрда,
як год восемнаццаць назад,
Цвёрда крочаць
праз луг і праз лес да прысад,
Да стагодніх прысад,
да высокіх бяроз...—
І Канікула-зорка
мне свеціць з нябёс.

Свеціць зорка,
між іншых яскрава відна...

Кожны год, як змяняецца
летам вясна,

Над зямлёй загараецца
 ярка яна.
Як студэнты дамоў
 з інстытутаў сваіх
На канікулы едуць
 па сцежках лясных,
Яна ў час той з нябёс
 асвятляе ім пуць, —
І за гэта Канікулай
 зорку завуць.
Гэта зорка не раз
 у лясной старане,
Калі быў я студэнтам,
 свяціла і мне.
І не раз гэта зорка
 у родных лясах
Мне да дома дзяўчыны
 паказвала шлях.
Вось і зараз іду
 між кустоў, між палян,
Чутна рэха ў бары —
 то іграе баян.
Вальс іграе баян
 на гары за ракой,
Весяляцца студэнты
 пад зоркай сваёй.
Што-ж, спявайце, сябры,
На высокай гары,
Каб чуваць былі песні
Далёка ў бары,
Вы спявайце, гуляйце
Да самай зары,
У жыцці весялейшай
Не будзе пары.
Да шчакі прытуляйцеся
Шчыльна шчакой,
Да рукі дакранайцеся
Ціха рукой,
Гаварыце ўсю праўду
Каханай сваёй,
Не бывае другой

Маладосці такой.

Там за лесам, за цёмным
Алесі сяло...

———

Мне было восемнаццаць,
ёй — дваццаць было.
Лета хутка імчалася,
быццам у сне.
Я гасціў у яе,
а яна — у мяне.
Лёгка чулася нам, —
ці мы ў лузе граблі,
Ці калгасныя з ёй
вартавалі палі,
Ці глядзелі, як белыя
хмаркі плылі.
Мы ў той час
на канікулах з ёю былі.
У той час палюбіў
хмаркі я ў сіняве
І касынку чырвоную
на галаве,
Комсамольскі значок:
сцяг і літары «КІМ»,
Комсамольскае сэрца
пад значком баявым.
Шмат за лета схадзілі
мы з ёю дарог,
Але ў тым, што люблю,
я прызнацца не мог.
— Слухай... — раптам пачну...
Ды яна як зірне
Строга гэтак, што слоў
Не хапае ў мяне,
Сэрца сціснецца ў грудзях
І думка мільгне:
«Пачакаю, а што,
Як адкажа, што «не»...

Па лясной непралазнай
        хадзілі глушы,
На Ільлю пабывалі з ёй
        на кірмашы,
Сямігодку таксама
        наведалі з ёй—
Наша школа здалася нам,
        помню, малой
І малым здаўся сад,
        і малым — школьны двор...

Там пачулі мы:
        школьны дружбак наш памёр.
Ці-ж паверыць такой
        навіне мы маглі?
К першай нашай магілцы
        мы з ёю прыйшлі.
Так... памёр ён вясной,
        як рунелі палі.
Як таварыш наш школьны
        вясною ўміраў:
— Пахавайце без крыжа...—
        бацькам наказаў.
І ў баку ад крыжоў,
        на гары ля сасны,
Як прасіў, так яго
        пахавалі яны.

Помнік з дошак
        і фото ў акенцы за шклом
Не замокне пад снегам яно,
        пад дажджом.
На тым помніку простым —
        вянкі, дзераза...

На магілку
        дзявочая ўпала сляза.
Вечарэла. Плылі
        туманы з паплавоў.
Начаваць мы пайшлі
        да ягоных бацькоў.

Я не знаю, чаму
Думка склалася ў іх,
Што яна мне — нявеста,
Што я ёй — жаніх,
Толькі нас сустракалі,
Нібы маладых.

На куце нас саджалі,
Як родных зусім,
Частаваць частавалі
Найлепшым усім,
Слалі спаць нам у клеці
На ложку адным,
Мы заснулі, як дзеці,
Сном моцным на ім.
Моцным сном мы заснулі.
Але раніцой
Сапраўды быццам сталі
Мы іншымі з ёй.
Быццам стаў я ёй,
З клопату добрых людзей,
Сапраўды даражэй,
А яна мне — бліжэй.
Мне з вачэй яе чорных
Свяцілі агні
Большай дружбы,
Даверлівасці, цеплыні.

Як дамоў паўз магілку
            ішлі на зары,
Песню «Смела, таварышы...»
            пелі сябры.
— Спі, наш школьны таварыш,
Ідзём мы. Бывай.
Нас за песню бадзёрую
Не дакарай.
Мы з твайго пакалення,
З кагорты байцоў,
Ні на хвілю не можам
Мы вешаць галоў.
Нас чакаюць

Вялікія справы ў жыцці,
Трэба ўперад ісці,
Толькі ўперад ісці!

**3**

Дарам Бесядзь сем раз
пераходзіў я ўброд:
Не прызнаўся… Прызнацца
рашыў ёй праз год.

Хутка год прамінуў.
Я прыехаў дамоў.
Загарэлася ў небе
Канікула зноў.
Я спяшаўся — пара
мне прызнацца як след.
І здарылася так,
што якраз мой сусед
Браў дзяўчыну з-за Бесядзі,
з той стараны,
Што вяселле якраз
зачыналі яны.
На калёсы я сеў…
Зазвінелі званкі,
Зазвінелі званкі,
заспявалі дружкі,
Паімчаліся коні —
э-гей!.. — да ракі.

Пры агні ды на ўзлессі,
пасля першака,
Добра песня спяваецца
пра Ермака.
Пасля трэцяе шклянкі
не цяжка ўявіць,
Што на месцы зямля
сапраўды не стаіць.
Выйдзі ў поплаў —
і стане яна караблём,
Хмаркі — ветразямі,
а ты сам — мараком.

Кідаць будзе цябе
ад куста да куста,
Нібы ў шторм марака
ад барта да барта.
І сабе цябе з ног,
стане палубай — луг.
Ты за купіну ўчэпішся,
нібы за круг.
Разам з пушчай,
з красой паплавоў і палян
Ты да любай імчыш...
Што табе акіян?
Не збаішся ты бур
на сваім караблі...

Раніцою мяне
пад капою знайшлі.
Я абтрос з сябе сена,
памыўся хутчэй,
Сеў на воз... пакаціліся
колы далей.
Што ні мост, ні равок —
мне бліжэй і бліжэй,
Што ні крок, што ні крок
б'ецца сэрца гучней,
Б'ецца сэрца гучней,
што ні мост, ні равок.

На калёсах са мной
ехаў хлопчык Змітрок —
Меншы брат жаніха.
Сам не знаю чаму,
Я ўвесь час гаварыў:
— Злезем разам... — яму.
Штосьці нат' абяцаў.
Прамінулі ўжо лес.
Вось і ганак. Я злез.
І Змітрок са мной злез.

Сціхлі ў далях званкі.
Сонца яркі прамень

Вокны ёй залаціў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Добры дзень.
— Добры дзень.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яна скончыла сёлета
Свой інстытут,
І нядоўга зусім
У гасцях будзе тут.
На Далёкі Усход
Трэба ёй ад'язджаць,
На Усход на Далёкі —
Дзяцей навучаць.
Я зрабіў прапанову
прайсціся ў лясок,
У той самы,
што летась хадзілі, лясок,
Покуль снеданне ў хаце
чакае Змітрок.
— А навошта? За чым?..—
Павяла ў агарод,
Там, чужыя нібы,
ля пчаліных калод,
Пастаялі мы з ёй,
падзівілі народ.
— На Далёкі Усход?
— На Далёкі Усход.
— Едзеш?
— Еду.

З кароткіх адказаў такіх
Зразумеў — ёй не трэба
Прызнанняў маіх.

Змітрака я паклікаў.
Мы выйшлі з сяла
Нечакана. Яна нас
Крыху правяла.

— Будзь шчасліва.
— Бывай.
Ліхам не памінай... —
І пайшла цвёрдым крокам дамоў.

— Пачакай...
Сваё фото па пошце
Прышлі на ўспамін.
— Я прышлю...
І касынка яе між галін
Знікла ў момант.
Застаўся я ў лесе адзін.

Я не верыў: так хутка?
Няўжо назусім?
Гэты міг раптам здаўся мне
Страшным такім,
Што я крыкнуў: —Алеся!..
Не знаю зачым.
Я паклікаў яшчэ.
Бор застаўся глухім.
Але шэптам далёкім,
Трывожным, чужым
Ён сцвярджаў: «Назусім,
Назусім, назусім»...
Мы з дарогі сышлі
На зялёны грудок.
Там я ўпаў на траву.
Мне-ж расказваў Змітрок:
«Як пайшлі ў агарод вы,
Я сеў пры акне...
Маці скардзілася
Суседцы пры мне:

— Я Алесі кажу —
Хлопец ён хоць куды.
За цябе маладзейшы? —
Такое бяды:
Пачакаеш яго — два гады,
Тры гады,
Пачакаеш, як скончыць

Вучобу, тады
І вяселле...
Куды табе ехаць? Куды?

— А яна?
— Тое самае:
Позна цяпер,
Я другога люблю...

— Хто-ж такі?
— Ін-жы-нер...
— Дык-жа добры, — суседка ёй,
Будзе ў вас зяць,
Яна шчасце знайшла...
— А ці варта шукаць?
Калі лёгкае шчасце,
То, кажуць, яно
Не трывалае шчасце.
— Там будзе відно.
— Ад дабра не шукаюць,
Суседка, дабра,
Не шукаць, здабываць
Трэба шчасце, сястра»...

———

Пыл узняўся
бялюткай сцяной з-за бугра.
Зазвінелі званкі,
загрымелі масткі.
— Гэй, сядай, падвязём!..—
закрычалі дружкі.
Вёз у родны калгас свой
нявесту жаніх,
На калёсах вясельных,
на конях ліхіх.
Сеў Змітрок
побач з братам сваім — жаніхом.
Я-ж пайшоў за вяселлем
памалу, з кійком.

**4**

Як дадому прыйшоў,
то збірацца пачаў
У дарогу і я —
да вучобы, да спраў.
— У паход!.. — пакідаў я
з такім пачуццём
Край лясны,
з маім першым каханнем,
як дом.
— У паход! — вось чаму
Перад тым, як пайсці,
Я падумаў: што лішнім
Мне будзе ў пуці?
Перш за ўсё, як зусім
Непатрэбную рэч,
Жаль, што сэрца сціскаў мне,
Адкінуў я прэч.
Ад Алесі лісты,
Што чытаў, што бярог,
Я спаліў, бо далей іх
Чытаць я не мог.
Так сабраўся ў паход я.
Ісці быў гатоў...
Тут апошні багаж
Ад Алесі прыйшоў. —
Фотаздымак... Сваёю
Рукою на ім
Напісала яна:
«На ўспамін аб былым».
Фотаздымак без жалю,
Без пісьмаў, адзін,
Можна ўзяць у дарогу,
Як лёгкі ўспамін.
Будзе ён гаварыць мне
Аб светлай вясне,
Будзе зваць у паходзе
Наперад мяне.
Моўчкі я, пакідаючы
Любы свой кут,
Каля гаю, на пні,

Пасядзеў пяць мінут.
Вось устаў, азірнуўся.
А мо' што забыў?
Можа з пісьмамі, з жалем
Тут шчасце спаліў?
Але не, не патрэбны
Ні пісьмы, ні жаль.
Шчасце ўперадзе ўсё,
Азарае мне даль.
Толькі трэба яго
Не шукаць, не лавіць,
Трэба шчасце ў суровым
Змаганні здабыць.
Шчасце ў працы, у светлым
Здзяйсненні надзей,
Шчасце ў тым, каб змагацца
За шчасце людзей.
Не жадаю я лёгкай
Удачы ў жыцці...
Трэба ўперад ісці,
Толькі ўперад ісці!

———

Вось і ўсё. Не, не ўсё.
　　　　Праз чатыры гады
Мне прыйшло —
　　　　будаваў Днепрабуд я тады —
Ад Алесі пісьмо:
　　　　«Помніш, дружа, той год,
Калі ехала я
　　　　на Далёкі Усход...
Я кахала тады,
　　　　быў жаніх у мяне.
Што-ж, вітаю з вяселлем, —
　　　　ты скажаш. — Ды не!..
Хоць была ў нас і згода,
　　　　і свацця, і сват,
Ды паехаць са мной
　　　　жаніха Наркамат
Не пусціў... Вось табе
　　　　і вяселлю адклад.

— А зачым табе ехаць? —
упрашваць тады
Стаў жаніх, — край суровы,
тайга навакол… —
Але ведаеш сам,
не паехаць туды
Не магла я.
Мяне пасылаў комсамол.
Мой жаніх не паехаў.
Ды ў тым вінават
Быў, як потым дазналася,
не Наркамат.
Не адважыўся сам ён,
збаяўся тайгі…
Спадзяваўся жаніх,
што праз месяц, другі
Я з суровага краю
збягу да яго.
Як мы ведалі мала
адзін аднаго!
Разлучылі мяне з ім
не тысячы вёрст,
Штосьці большае… Я —
комсамольскі свой пост
Не пакінула, ён —
не пакінуў сваёй
Службы ў цэнтры, кватэры,
а гэтай вясной
Ажаніўся, вядомая рэч,
на другой.

Хутка скончыцца тэрмін
работы маёй
На Далёкім Усходзе…
Паеду дамоў.
Як хацелася-б школьных
пабачыць сяброў.
Дзе цяпер ні жывуць толькі
нашы сябры —
На Турксібе, на Волзе
і на Дняпры…»

Я паслаў ёй кароткі
          і сцiслы адказ:
«Прыязджай, будзеш госцяй
          жаданай у нас
На вялікай будоўлі...»

          Алеся, аднак,
Не наведалася,
          напісаўшы мне так:
«Дзякуй, што адказаў,
          хоць і рэхам глухім...
Хопіць сілы мне
          справіцца з горам сваім
Час і праца найлепш
          дапамогуць мне ў тым..
Пасылаюць мяне
          на Урал працаваць...»

Я хацеў адказаць.
А куды адказаць?..
Ёй дакорам хацеў
Адказаць на дакор,

Напісаць: «Ці ты помніш,
Алеся, той бор,
Дзе я клікаў цябе,
А ты моўчкі пайшла,
Адазвацца, хоць блізка была,
Не змагла?
Дык хіба, жаль пазбыўшы,
Пазбыўшы тугу,
Іншым рэхам табе
Адазвацца магу
Я з адлегласці
          у чатыры гады?..»

Так хацеў напісаць,
Ды не ведаў, куды.
Я-б знайшоў яе адрас,
Калі-б пашукаў,
Толькі я, прызнаюся,

Багата меў спраў,
Гэткіх спраў, што і ночы
Не меў, каб паспаць.
Знаў адно — будаваць,
Будаваць, будаваць.
Праўда, з часам
Даведаўся я, дзе яна.
Напісаў... Але тут
Пачалася вайна.

**5**

Шляхам тым, дзе не быў
восемнаццаць гадоў,
Зноў, як некалі,
я з хваляваннем ішоў.
Біты шлях, пыльны шлях.
Ноч, як звон, без расы.
Па баках — то лясы,
а то зноў — каласы.
Я прыйшоў. Вось той ганак,
той ганак, той дом,
Тое-ж прасла. Рабіны
пад тым-жа акном.
Падраслі — не пазнаць.
Сонца першы прамень
Вокны ўжо залаціў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Добры дзень.
— Добры дзень.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта маці. Стаяў
я запылены ўвесь
Перад ёй і чакаў... Ці пазнае?
— Алесь!..
І заплакала... я
не распытваў — сама
Маці ўсё расказала:
— Алесі-ж няма...

— У мяне ў сорак першым
гасціла яна,
Тут яе, на радзіме,
застала вайна.
Навакол нас лясы —
партызанскі раён.
Ну, вядома, Алеся — у лес,
з першых дзён.
На чыгунку хадзіла
ўзрываць эталон
Ды натрапіла раз
на варожы заслон...
Уцякала,
адстрэльвалася,
наўздагон
Аўтаматы страчылі
ў світальнай імгле.

Цэлы дзень я спакою
не знала ў сяле.
Ноч настала. Я толькі прылегла,
як мне
Падалося, што нехта
стаіць пры акне.
Падыходжу: Алеся!..
Глядзіць у акно,
А ўся белая,
белая, як палатно.
З лесу, раненая,
прыпаўзла да сяла,
Да сваіх... Тут памёрла,
Крывёю сышла.
Пахавана над Бесяддзю
на кургане.
Тую ноч не забуду
ніколі я, не!..
Як хацелася жыць ёй! —
Яна ў забыцці
Гаварыла ўвесь час
аб жыцці, аб жыцці,
Вольнай родную бачыць

хацела зямлю...
То хацела ісці
на кірмаш на Ілью,
То на сход комсамольскі,
на першы свой сход,
То са смехам раку
пераходзіла ўброд,
То змаўкала раптоўна...
Здавалася ёй,
Нехта кліча: —Алеся! —
ў бары за сцяной.

———

Я не вытрымаў. Выбег.
Што гэта са мной?

———

Бор за домам падрос,
стаў цяпер векавым.
Гэта тут развітаўся
я з ёй назусім.
Прад вачыма плывуць,
як жывыя, ізноў
Усе сустрэчы мае...
усе словы з лістоў. —
Думаў я, што даўно
спапяліў іх агонь,
А яны б'юць мне ў сэрца,
штурхаюць у скронь.
Мне здавалася, я ўжо
даўно іх забыў,
А я першай любоўю
люблю, як любіў,—
І хмарынку бялявую
у сіняве,
І касынку чырвоную
на галаве,
Комсамольскі значок:
сцяг і літары «КІМ»,
Комсамольскае сэрца
пад значком баявым.

**6**

Сёння полем, дзе быў
партызанскі раён,
Самаходны камбайн
гоніць жытні загон.
На камбайне дзяўчына
жне жыта з відна.
У такой, як Алеся,
касынцы яна.
У чырвонай касынцы,
прыкметнай здалёк,
На грудзях баявы
комсамольскі значок.
Славіць песняй сваёй
у палях залатых
І загінуўшых справы
і справы жывых.
А з капніцеля,
ды на ўвесь край на лясны
Пасабляюць ёй пець
хлапчукі-таптуны,
Грузавік пад'язджае,
ідзе бок у бок,
Ускідае камбайн,
адчыніўшы латок,
На яго свой цяжар —
поўны бункер зярнят,
Нібы дзядзьку на плечы
пудоў шэсцьдзесят.
Грузавік, як жывы,
уздыхае, сапе,
І, падкінуўшы ношу,
нясе на сабе.

На камбайне сяджу
за шчытком ветравым.
Жыта боль закалыхвае
шумам марскім.
Закалыхвае боль,
закалыхвае жаль.

А дзяўчына вядзе
карабель свой між хваль,
Карабель свой вядзе
ў залацістую даль.
Разам з ёй слаўлю песняй
разумную сталь.

Слаўлю мірную сталь СССР,
па якой
Льюцца ў бункер зярняты
шумлівай ракой.
Праклінаю фашысцкую сталь,
па якой
Тут нядаўна кроў наша
лілася ракой.

Праклінаю сталь смерці,
што косіць, не жне,
Сталь, якую ўвесь свет
сёння гучна кляне.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Карабель наш магутны
нырае між хваль.
Слаўлю сталь СССР,
слаўлю мірную сталь!

**7**

Не наведаць не мог
я таго кургана,
Дзе сябрамі ў вайну
пахавана яна.
Пад густым, пад зялёным
сасновым шатром —
Помнік з дошак
і фота ў акенцы за шклом,
А ні сонцам не кранутае,
ні дажджом.
Як жывая — глядзіць
на лугі, на раку,

У кубанцы мужчынскай,
у кажушку, —
Просты,
поўны рашучае сілы пагляд,
Лента цераз плячо,
на грудзях аўтамат —
Рэвалюцыі
непераможны салдат.
І, —
без гэтага быў-бы не поўны партрэт,—
Знаю: пад кажушком,
захаваны як след,
Каля самага сэрца —
партыйны білет.
А навокал жывыя вянкі —
колькі іх? —
З кветак розных: лясных,
лугавых, палявых,
Акуратна пакладзеныя
на траву...
Я ў жалобе схіляю
сваю галаву.
Потым, вокам акінуўшы
ціхі курган,
Гавару я ад імені
тых партызан,
Што хавалі яе,
ад сяброў баявых,
Што былі тут
і што не былі — ад усіх,
З кім ішла яна шляхам адзіным,
ад тых,
Што цяпер адбудоўваюць
родны свой край:
— Спі спакойна, таварыш.
Ідзём мы. Бывай.
Мы не хілім галоў,
Шчыльна стаўшы ў рады.
У смяротныя бітвы
Вадзіла заўжды
Нас не толькі нянавісць,

Вадзіла любоў
Да Радзімы, да працы,
Да нашых сяброў.
І сягоння вядзе нас
Наперад ізноў
Прага працы, любоў,
Наша юная кроў.
Пакаленне, з якім
Выраслі мы ўсе,
Сёння ў свеце
Галоўную службу нясе.
Шмат яшчэ перашкод
І нягод на пуці.
Трэба ўперад ісці,
Толькі ўперад ісці.—
Вечар. Зоры мігцяць.
                    Пакідаю курган.
Чутна рэха ў бары —
          то іграе баян.
Вальс іграе баян
          на гары за ракой.
Весяляцца студэнты
          пад зоркай сваёй.
Але хутка нікога
          не будзе з іх тут,
Іх чакае дарога,
          Масква, інстытут,
Мінск, Баку, што ўжо сняцца
          настойліва ім…
Хутка згасне Канікула
          ў небе начным.

Згасне хутка Канікула?
Што-ж, не шкада, —
Там, дзе стрымана
          моцнай плацінай вада,
Сёння новую
          яркую зорку сваю
Запалілі яны,
          я ёй славу пяю.
Не згасае ні ўвосень яна,

ні зімой,
Днём таксама, як ноччу,
гарыць над зямлёй.
Што-ж, спявайце, сябры,
На высокай гары,
Каб чуваць былі песні
Далека ў бары,
Вы спявайце, гуляйце
Да самай зары,
У жыцці весялейшай
Не будзе пары.
Да шчакі прытуляйцеся
Шчыльна шчакой,
Да рукі дакранайцеся
Ціха рукой,
Гаварыце ўсю праўду
Сардэчную ёй
Пад шчасліваю зоркай,
Пад зоркай сваёй.

Бесядзь я перайшоў.
Просіць сэрца дарог.
Быццам пераступіў я
бацькоўскі парог,
Як марак,
што спяшаецца на параход
Як пілот,
што спяшаецца на самалёт
Як камбайнер,
які выязджае ў палі,
Як салдат, што ў суровы
выходзіць паход,
У змаганне за шчасце
і мір на зямлі...
Як марак, як пілот,
як камбайнер, салдат.
Толькі ўперад і ўперад,
ні кроку назад!

*1950 г.*

## ПЕСНЯ АБ СЛАЎНЫМ ПАХОДЗЕ

Хачу, каб славілі мы ўсе
Паход, што людзям мір нясе,
Варштат і хлеб — рабочаму,
Да працы век ахвочаму,
Зямлю і плуг — аратаму,
Суд — багачу праклятаму,
Жыццё — бядой замучаным,
Вясёлы смех — засмучаным,
Любоў — усім разлучаным.

Хачу згадаць я светлы час,
Што да жыцця паклікаў нас,
Паход Кастрычніцкі згадаць,
Аб людзях бедных расказаць,
Аб сэрцах разлучоных,
Аб днях разлукі чорных,
Аб тым, як дні змяніліся,
Аб тым, як пажаніліся
Дзяцюк з сваёй дзяўчынаю,
А вораг іх — з асінаю.

Гісторыя, хоць даўняя,
Аднак дагэтуль слаўная.
Не раз яшчэ сустрэцца
Нам з вамі давядзецца
З гісторыяй такой
Усюды, дзе вядзе народ
За волю бой, за шчасце бой,
За мір ідзе ў паход.

Яна жыве, хоць сёння ёй
Ужо за трыццаць год.

Яна жыве, жывая,
Там — на палях Кітая,
Там —дзе ў агні Карэя.
Гісторыя старая
На свеце не старэе.
Яна зямлі прасторамі

Імчыць ва ўсе канцы.

Героі той гісторыі —
За новы свет байцы.

**1**

Гарачыня. Народ аж
Забіўся пад вазы.
Гудзе кірмаш. На продаж
У кошыках з лазы
Гліняныя свісцёлачкі
Нясуць два ганчары:
— Зязюлі! Перапёлачкі!
— Гэй, налятай! Бяры!

Б'юць у званы... З відна званы
Святочны ўзнялі вэрхал.
З царквы, пад гул званоў, паны
Выходзяць... Вось ужо яны
Праз плошчу едуць верхам.
Кадзіць сваім кадзілам дзяк
Паперадзе працэсіі,
Гарцуе генерал Булак,
А следам — штаб увесь яго.
Паны ўсё самавітыя —
Махноўцы недабітыя,
Дзянікінцы, пятлюраўцы,
Гарцуюць, люлькі курачы.

Кірмаш шумлівы... Карусель...
— Гэй, расступіся!.. — чуецца.
Працэсія, як карабель,
Між хваль людскіх кіруецца.
За панам праязджае пан.

Булак, нібы той капітан.

Наняты ён Антантаю —
Амерыкай, Брытаніяй,
З усёй сваёй камандаю,
З усёй сваёй кампаніяй.

Усе рукой вайны яны
Памераны, узважаны,
Усе на карабель вайны
Рукой вайны пасаджаны.

Каго ні вёз той карабель,
З кім толькі ні трапляў на мель?

Хто з палубы не мерыў даль
З пірацкаю драпежнасцю,
Магутных тых не бачыў хваль
З іх грознаю бязмежнасцю?
Змёў вольны акіян усіх,
Змёў чорных ворагаў сваіх
Навечна ў бездань чорную
Хваль сілай непакорнаю.

...Змёў чорных ворагаў усіх.
Булак — апошні сярод іх.

Сюды ён не да крам і брам
З'явіўся сёння ў госці,
На могілкі спяшае — там
Ягоных продкаў косці.
Ён хоча ў кірмашовы дзень
Наведаць ліп таемны цень,
Дзе прадзедаў капліца—
На ўдачу памаліцца.
Але дарма спяшаецца,
Усе малітвы — зман.

Супроць яго ўздымаецца
Народны акіян.
Калышуцца, як хвалі,
Па ўсёй зямлі штыкі,
Маланкамі заззялі
Пад хмарамі клінкі.

Полк за палком займае
Для бою рубяжы.

Разведка баявая
Свой рэйд вядзе ў глушы.
І, можа, вока мае
Яна сваё—хто знае?—
І тут, на кірмашы?

Капліцу адмыкае дзяк.
Крыжы, магілы... Злез Булак.

Ён на калені стаў, як злез,
А ўслед за ім — і штаб увесь.

Маліўся шчыра ён, каб бог
Яго ад кулі засцярог.

Прасіў, каб бог вярнуў яму
Маёнткі ўсе былыя.
Адтуль паехалі ў карчму
Начальнікі штабныя.

---

— Купляй свісцёлку, маці —
Ну, чым не салавей?..
Свой салавей у хаце —
Пацеха для дзяцей.

— Пасіплі дзеткі з холаду,
Папухлі дзеткі з голаду.

— Купляй, хлапец засмучаны
Калі твае заручыны?

— Ды не, купляць не стану я.
Заручана каханая
З багатым панам сілаю,
Прымусам павянчаная...

— Купляй, яшчэ ўсё зменіцца.
Купляй, яшчэ ажэніцца
Багаты пан з магілаю,
А бедны хлопец з мілаю.

— Купляй, касец, гліняную
Свісцёлку паліваную!

— Навошта мне яна,
Час не такі — вайна.

Свістаў-бы я — не свішчацца,
Спяваў-бы—не спяваецца,
Усё вайною нішчыцца,
Усё, усё знішчаецца...
— Купляй, вайна канчаецца.

— Ёсць у мяне каса і плуг.
Няма дзе разгарнуцца, друг.

— У пана не адзін загон.

— Я — узараў, засеяў — ён.
— Засеяў ён, а ты сажнеш.
Не будзе болей панскіх меж.
Разбілі мы Юдзеніча,
Булак — нідзе не дзенецца,
Прагналі мы Дзянікіна,
Яго — таксама выкінем.

Разлічымся з Антантаю,
З яе наёмнай бандаю.

— Прагонім, кажаш, ворага?,,
Пачым тавар?
— Не дорага.

Кірмаш. Размова шчырая
З тым, з гэтым пачынаецца.

Свісцёлкі — цацкі мірныя,
Купляй, каму жадаецца!

**2**

Калёсы. Канюшына.

Кірмаш. Гарачы час.
П'е з конаўкі жанчына
Халодны хаткі квас.

Ганчар праходзіць міма,
Штурхае сябра ў бок:
— Вось і яна... Арына...
Арына Касянск.

Паўз воз яны, вясёлыя,
Прайшліся тры разы,
З гліняньмі свісцёлкамі
У кошыках з лазы.

А што рабіць жанчыне,
Арыне Касянок? —
Цікавы позірк кіне,
Як быццам незнарок.

Абы было жаданне,
Знаёмства ўзнікне ўраз,
Хаця-б праз той, што ў збане,
Халодны хатні квас.

П'юць па чарзе і хваляць квас:
— Халодны...
— Як крышталь...
— А можна ў сваты нам да вас
— Замужняя, нажаль.
— Законны муж?
— Законны.
— А малады?
— Стары...
— Дык мы яго прагонім! —
Смяюцца ганчары.

— Не верыцца мне штосьці...
— Чаму так?
— Проста так...
На хутар сёння ў госці
Прыедзе сам Булак,

Збірае там сягоння
Начальнікаў штабных, —
Дзе вам прагнаць...
— Прагонім
І Касянка, і іх!

Дарэчы, не дарэчы
Гавораць так яны,
Пра новыя сустрэчы,
Пра той куток лясны.

— А ў лесе за ярамі
Утульны ёсць куток... —
Жартуе з ганчарамі
Арына Касянок.

Кароткая за квасам
Размова ў іх аднак.

Ужо ідзе тым часам
З карчмы старой Булак.
Выходзіць з ім на ганак
Аніс — Арынін муж:
Кашуля вышываная
Буйным узорам руж.

— Ну, дзякуем, Арыиа,
За квас... А нам — пара.
— Няма за што...—• Жанчына
Глядзіць на ганчара.

Пайшлі.

Сярод калёсаў
Згубіўся іхні след.
Арына доўга з воза
Глядзела ім услед.
І доўга ў гуле, звоне,
У галасах людскіх
Ёй чуўся жарт:
— Прагонім

І Касянка, і іх...—

Перад вачыма — вочы,
Паходка ганчара.
Далёкі час дзявочы,
Шчаслівая пара!
Трывожна сэрца ныла...
А ці не той тут быў,
Каго калісь любіла,
Хто так яе любіў?
Ды не, ёй не здалося,
Не, гэта быў не сон:
Стаяў, піў квас пры возе
І размаўляў з ёй — ён.

**3**

Палескі край зялёны
Сярод сваіх лясоў
Схаваў атрад чырвоны —
Дзве сотні ў ім клінкоў.

Адтуль дарогай пыльнай,
Як быццам на базар,
У вопратцы цывільнай
Спяшаўся камісар.

З ім—два байцы. Учора
Прыехалі ў свой час.
Каня свайго за горадам
Пусцілі на папас.

Пайшлі адтуль разведчыкі
Да брамаў гарадскіх.
А камісар ля рэчкі
Чакаць застаўся іх.

І вось — стаяць пад дубам
Над рэчкай у яры
Байцы Адам з Якубам —
Былыя ганчары.

Дзе-ж кошыкі? Як маецца
Вясёлы той тавар?..

На ўмоўны свіст спяшаецца
Да дуба камісар.
...Схіляецца над картай,
Наказ дае байцам:
— Мець давядзецца з вартай
Сягоння справу вам.
Адам, вось тут дарога...
Гумно... Адгэтуль вы,
У час пошуку начнога,
Павінны вартавога
Прывесці ў паплавы.
Цяпер-жа ты ў разведку
Да хутара, Адам,
Сам сходзіш...

Добра ўлетку
Лясам, палям, лугам!..
Ідзе і захапляецца
Ганчар красою іх.

А як свісцёлкі маюцца
У кошыках сваіх?

У кошыках свісцёлачкі
Забыты пад кустом,
Спяць, быццам перапёлачкі
Пад матчыным крылом.

**4**

Свісцёлачкі гліняныя
Паспалі пад кустом
І — ў поле, неслухмяныя,
Услед за ганчаром
Пабеглі і забыліся
На кошыкі з лазы.
У полі пакарміліся,
Нагнуўшы каласы,
З густой травы напіліся

Сцюдзёнае расы.

Ужо ім падабаецца
Шум жыта, шум сасны.
— Жаць-жаць!..— пераклікаюцца
То тут, то там яны.
— Жаць!.. — мовай ім сваёю
Адказвае гушчар.

У лузе пад капою,
Над ціхаю ракою,
Іх слухае ганчар.
— Жаць!..—гулка адгукаецца
Вакол і луг і сад.
З разведкі ўжо вяртаецца
Ён да сваіх, назад.
Пад ім плыве хмарынка,
Паволі, па вадзе.
Відаць яму — Арына
Каня на луг вядзе.
Па хустцы прыкмячае
Адам здалёк яе.
А як яна? Пазнае
Адама?..
Пазнае.

Што ёй сказаць? Не знае...
Нясмелы робіць крок.
— Дык гэта ты ? — пытае
Арына Касянок.

Сядзяць яны з Адамам
На сене пад капой.
— А гэта ёсць той самы
Куток утульны твой?

— А я, Адам, пазнала
Цябе на кірмашы,
А ты мяне ? — пытала
Яна яго ў цішы.

— На кірмашы з табою
Я стрэўся назнарок.
Я пяць гадоў не бачыў
Арыны Касянок.
— А помніш?..—
                        і жывая
Размова паплыла,
А ўсё аб тым, якая
Любосць у іх была,
Як ён збіраўся ў сваты,
Прасіць яе рукі,
Як разлучыў багаты
Іх, бедных...

— Лёс такі.
Хто гэтаму віною?
Ні ты, ні я — бацькі.

Зацішна пад капою
Сядзець ім ля ракі.

— Кідай Аніса... Пойдзем
У белы свет з табой.
Там шчасце сваё знойдзем,
Прытулак знойдзем свой.
Я ўсё, я ўсё дарую,
Забуду боль, тугу,
Бяду сваю былую...
Хадзем-жа!
— Не магу.

— Чаму?
— Адвагі мала.
Далёкі свет, чужы...
— А помніш, ты казала
Пра рай і ў шалашы?

— Даўно было ўсё тое...
Пра шчасце на зямлі
Мы марылі з табою
Тады...

— Тады былі
Мы беднымі...
— Без долі.
— Цяпер ты маеш дом,
Свой дом...
— Зямлі даволі...
— Сад пад тваім акном
Шуміць вясёла летам,
Не страшна і зіма...

— Адам, ці шчасце ў гэтым?
Няма яго, няма.
З брыдкім, старым, нямілым
Жыву... Дзяцей няма.
Мне дом мой, як магіла,
Мне сад мой, як турма.
Сяджу, як за сцяною,
Маўчу, як у труне.
— Хадзем... Хадзем са мною!
Кінь дом свой, сад свой...
— Не.
Не можна. Павянчаны
З Анісам мы ў царкве.
Грэх мне ўцякаць, каханы,
Замужняй, не ўдаве.

Плывуць, параскіданы,
Хмарынкі ў сіняве...
Але, хоць раскідаў іх лёс,
Сыйдзецца на шляхах нябёс
Калісьці, часам веснавым,
Зноў хмарка з воблакам сваім.
Над люстрам рэк, азёр, крыніц
Заломіць рукі бліскавіц
Яна ў яго на шыі.
Пральецца на зямлю дажджом,
На далі веснавыя,
Пральецца радасным дажджом...
А потым павязе іх гром,
Шчаслівых, над зямлёю,
Па ўхабах стрэх, па ўхабах стрэх,

Дарогаю сваёю...

Чаму, скажыце, ім не грэх?

— Грэх выдуман царквою...
— А бог?
— Мана і бог.
Чаму ён нам з табою,
Скажы, не дапамог?
Чаму, калі батрачыў,
Ён мне не даў зямлі?
Арыны слёз не бачыў,
Што ў той царкве цяклі?
Хадзем!.. На самай справе.
Я так цябе люблю!
Мець будзем неўзабаве
Мы волю і зямлю.
Вялікі час настане!..
— А хто дасць волю нам?
— Рабочыя, сяляне,
Што смерць нясуць панам.
— Навек?
— Навек. Забудзь-жа
Пра бога, пра царкву. ,
— Забыць, Адам? А людзі?

Яна яму на грудзі
Схіляе галаву.
Над імі ў хмарках неба,
І грэе сонца іх.
Сядзяць, маўчаць, як трэба--
Нявеста і жаніх.

Пад імі з вольнай волі
Плыве рака ў лясы,
Як некалі, паволі,
У даўнія часы.
Ды толькі чуюць — недзе
Ужо грыміць бальшак.
І першы коннік едзе
Над ярам...

— Хто?
— Булак.

І позірк вінаваты
Кладзецца на ваду.
Ёй час ісці дахаты.
— Прыходзь, Адам.
— Прыду.
Мінае дзень любосці
І дзень вясёлых дум.
Яе чакаюць госці...
— Сгоды прыходзь.
— Прыду.

**5**

Вылазячы з яроў лясных,
Мінаючы карчы,
Два сябры, як дамоўлена,
К гумну паўзлі ўначы...

— Зірні, ў святле маладзіка —
Халодны бляск, то бляск штыка,
Заўважыў?.. Каля гаю...
— Але... я заўважаю.
— Нячутна падабрацца-б нам...

— Ён блізка ўжо зусім, Адам.
— Цішэй.

Паўзлі ярамі
Ад рэчкі туманы.
Услед за туманамі
Удвух паўзлі яны.

Тут выплыў месяц мутны,
Ды, каб не выдаць іх,
Як і яны, нячутна,
У хмарах знік сваіх.
Нячутна, асцярожна
Паўзлі яны між дрэў.

У цемені трывожны
Крык з гаю даляцеў.
Агнямі ззяла хата —
Здалёк байцам відна:
Ля вокнаў бегла варта
На крык той, да гумна.
Ляжаў пад яліною
Звязаны паставы.
Час рыхтаваць да бою
Гранаты ім. На тое
І пошук баявы.
Бой з вартай — немінучы.
Зірнуў на друга друг:
— Цягні,— сказаў рашуча,—
Ты вартавога ў луг,
А я — зраблю засаду,
Тут затрымаю іх.
Цягні...

Сціскаў гранату
Ён у руках сваіх.
Плыў месяц засмучоны
Над сцежкаю лясной.
Там вёў баец чырвоны
З варожай вартай бой.
Апошні ўжо ў разведчыка
Патрон. Сабе — патрон
Ці ім?
Шкада, асечка!..
Што-ж? Мае рукі сн,
Каб задушыць любога...
Не лёгка ўзяць жывога
Разведчыка ў палон.

---

Па цёмнай палавіне
Хіснулася святло,
І цені пры лучыне
Адскочылі на шкло.

Там — цень байца. Цень — ката.

Цень — грознага штыка.
Засценкам стала хата
Аніса Касянка.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дапытваліся строга,
З кім ля гумна ён быў?
З кім быў? Хто вартавога
У палон там захапіў?

Пыталі, ды нічога
Адам не гаварыў.
Маўчаў баец упарта.

Вёў допыт да зары
Дарма начальнік варты
І Касянок стары.

**6**

Пакінуўшы Аніса
З палонным, пад акном
Начальнік варты мыўся,
Каб сон прагнаць. Стаміўся,
Бялюткім рушніком
Ён выцер рабацінне,
Свой мокры карак, лоб.

На чыстай палавіне
Булак на ложку хроп.

Ужо віднела пакрысе,
Спакойна спачывалі ўсе:
Хто на пярыне ў доме,
Хто ў пуні на саломе.

Адзін начальнік варты
Не спаў... Ва ўсе кусты
Паставіў ён пасты —
Трывожны час, не жарты!

І лес і сад наўкола

У туманах стаяў.

Памыўся ён. Вясёла
Ля ганка засвістаў.

Арына з клеці выйшла
На свіст. Каля яе
Ён захадзіў увішна:
— Дзень добры! Хто ўстае,
Таму пан бог дае.
А ці не я, выпадкам,
Парушыў твой спакой?

— Дзе Касянок?

— Заняты.
Ён усю ноч — са мной...
Дзе-ж быць яму іначай,
Сама, як след, разваж.
Работы нам гарачай
Даў з ім палонны наш:
Бяда!.. Аднак, мяне ты
Не слухаеш зусім.

— А ён, палонны гэты,
Там з ім, з Анісам?..
— З ім.
— Які ён? Можна глянуць?..
— Хадзем... ужо відно...

У ціхі сад акно
Расчынена... Расяна.

— Хадзем сюды, за мной.,.
Ну, бачыш?.. Што з табой?
Збялела, пане мой,
Хто-б думаў? Сядзь на ганак...
Вады прынесці?

— Не.
Паклічце мужа мне.

## 7

Тупы, цяжкі, павольны крок —
Выходзіць з дому Касянок,
Каля акна ўмываецца
Халоднаю вадой.
На ганак сеў. Пытаецца
У жонкі: —Што з табой?
Хто ён? Знаёмы твой —
Палонны?..
— Не...
— Упарты:
Маўчыць, хоць гвалт крычы,
Маўчыць, хоць засячы.
Адзін — дзесятка варты.
Каб мы яго прымусіць
Загаварыць маглі,
Пан генерал-бы, мусіць,
Нямала-б даў зямлі
За гэта нам... Арына,
Падумай ты аб тым.
Ты можа-б, як жанчына,
Пагаварыла з ім?
Мы з ім цябе пакінем
Адну, ты побач сядзь,
Па галаве, як сына,
Байца таго пагладзь.
Памалу ды паволі
Распытвай пра атрад...
Зямлі-б займелі шмат...

— Яе ў цябе даволі.
— Абшарнікам, Арына,
Я стаў-бы...

— Тры аршыны
Мець будзеш, больш — наўрад.
Ты аб уласным, чуеш,
Падумай лепш жыцці:
Байца, што ты вартуеш,
На волю адпусці.

— Як так? Ты што, жартуеш?

— Ты зручнае мінуты
З палонным прычакай,
Пра свой намер яму ты
Шапні... Жыве няхай
Баец.,. Няхай бяжыць...

— Не, гэтаму не быць.

— Ну, што-ж, катуй, губі,
Як хочаш, так рабі,
Як хочаш, так жыві.
Расплаты-ж час настане,
Мяне тады, васпане,
За сведку не заві.

---

Ішоў чырвоны ранак
Па свеце, за акном,
Вось узышоў на ганак,
Вось увайшоў у дом.
Вось свой прамень чырвоны
У цёмны кінуў кут,
Дзе ў гэты час палонны
Ляжаў:
— Чаму ты тут?..

— Як бачыш, скатаваны,
Ляжу я тут, мой ранак...
Гарыць на целе раны,
У вачах маіх кругі.

— Трымайся, дарагі,
Устань!.. Не трэба крылы
Складаць у барацьбе.
Устань!..

— Няма ўжо сілы.

— Я сілы дам табе.
Я там, я там, на ўсходзе,
Быў толькі што, мой брат,
Там бачыў я ў паходзе
Будзёнаўскі атрад.
Я веяў свежым ветрам
Будзёнаўцам у твар.
Сюды па цёмных нетрах
Вядзе іх камісар.
Святлом праз пушчы значыў
Я камісару шлях.
— Хто сцяг нясе, ты бачыў?
— Ён сам нясе твой сцяг.
Не чуюць коні змогі,
Імчаць, як у баю.
Устань, баец, на ногі,
Змагайся...

— Я ўстаю.

*

— Ты думай аб замучаных
Бядой, не аб сабе.
Ты думай аб засмучаных
І аб усіх разлучаных,
Што гінуць у жальбе.
Я ім нясу зару маю
Пасля глухой начы...

— Я думаю, я думаю.

— Трымайся і маўчы.

---

— Ну, час ісці ўжо... Годзе.
Пайшлі!..
Курок на- ўзводзе.

Па праву канваіра
Узвёў Аніс курок.

Байца пільнуе шчыра,
Старанна Касянок.

Адам глядзіць з усмешкай.
Яго ўжо больш не б'юць,

Вядуць глухою сцежкай...
Куды яго вядуць?

**8**

Спяваюць перапёлачкі
Усе да аднае,
Як быццам хто свісцёлачкі
За гаем прадае.

— Жаць трэба, людзі добрыя,
У вас-жа дзеткі дробныя.

— Шумяць абшары панскія
Вакол даспеўшай ніваю,
А нашыя сялянскія
Палоскі неўрадлівыя.

— Жаць трэба, жаць, сардэчныя,
Жаць грамадой адзінаю,
Рваць ланцугі спрадвечныя
Сваёй працоўнай сілаю.

За гаем перапёлачкі
Усе да аднае
Пяюць... як-бы свісцёлачкі
Хто ў жыце прадае.

— Жаць-жаць!.. Хлапец замучаны,
Калі твае заручыны?

— З багатым заручоная
Даўно, даўно краса мая.
Мяне-ж вядуць, каб з чорнаю
Я павянчаўся ямаю.
— Ідзі!..

Яшчэ ўсё зменіцца,
Ідзі!..
Яшчэ ажэніцца
Багаты сам з магілаю,
А ты — з дзяўчынай мілаю.

---

Праменні сонца—на страсе...
Умытае расою,
Яно, ва ўсёй сваёй красе,
Уставала над зямлёю.
Баец глядзеў... Ішоў між дрэў
Сцяжынкаю глухою.

Як сонца бачыць ён хацеў,
Не гэтае — другое!

Хацеў ён, каб было відно
У акружэнні зор яно.
Другое!.. З ім звязаў ён лёс —
На дрэўку тое сонца нёс.

Ён нёс яго адтуль, дзе ўсход,
Дзе пачало яно паход,
Паход, што не спыняецца,
Што слаўным называецца...

Калі ўпадзе баец на шлях,
Другі падхопіць сонца-сцяг.

Калі ўпадзе адзін баец
На шлях — паходу не канец.
Байцоў у тым паходзе шмат,
Сцяг волі несці кожны рад.
Чырвоны сцяг, як сонца,
Свяціць яму бясконца!

---

Да выкапанай ямы
Спяшаецца Булак,
Садзіцца ён на камень,

Пытаецца:
— Ну, як?
Як, не салодка ў яме?..
Скажы ўсю праўду нам,
Табе багацце дам я,
Дам волю, хутар дам...

Але маўчаў Адам.

Маўчаў, глядзеў на ката,
На ўзведзены курок.
— Чакайце!.. — бегла з хаты
Арына Касянок.
Спяшалася да гаю.
Быў бледным яе твар.
— Хто ён такі — я знаю...
— Хто ён такі?
— Ганчар...
Яго завуць Адамам,
Ён — з нашага сяла,
З таго, адкуль я замуж
За Касянка пайшла.

— Пан генерал,— шаптала
Арына Булаку,—
Яго я змалку знала,
Ён—жыў цераз раку...
Пан генерал, дазвольце
Адным застацца нам —
Усё ён мне раскажа,
Што не гаворыць вам,
Раскажа ўсё на свеце...

Пан генерал адных
Пакінуў іх у клеці,
Паставіў вартавых.

**9**

— Ты быў-бы ўжо зямлёю,
Адам... Не мне хітрыць:
Я аб жыцці з табою

Прыйшла пагаварыць.

— Кажы.
— Што нам рабіць?
Сярод чужых пяць год я
Чужою тут жыла,
За сорак вёрст ад родных,
Ад роднага сяла.
Жыла, як пад зямлёю,
Сярод нялюбых спраў,
Разлучана з табою.
А муж? Ён і не дбаў...
Падумаеш, кахала
Якогась бедака,
Забудзе!..— Гэта мала
Займала Касянка.
Ён і не знаў ніколі
Цябе, твайго імя.
Лічыў ён — лепшай долі
Не прычакаю я.
А я сустрэла ўчора
Цябе на кірмашы.
Былое наша гора
Прачнулася ў душы.
Няма, Адам, спакою
Мне зноў з хвіліны той...
А потым пад капою
Сядзелі мы з табой...
Як не было разлукі!
Што нам рабіць? Скажы.

— Я звязаны. Мне рукі,
Арына, развяжы.

— Чакай, чакай, развяжам...
Ну, што рабіць далей?

— Цяпер мы пойдзем разам
З табою да дзвярэй,
Аглушым вартавога
І ў лес... У добры пуць!

Вось нашая дарога
У жыццё...
— А як заб'юць?
— Мне ўсё адно, Арына.
Ну... Я пайду. Бывай.

— І я з табой.
— Чакай.
Тут будзь. Ты жыць павінна.

— Жыць, кажаш?..
— Перадай,
Як нашыя спытаюць,
Скажы ім — доўг байца
Я выканаў, хай знаюць,
Як трэба, да канца.
шыві...

— Пустыя мары.
Павінна я ўцякаць
З табою... Іхняй кары
Мне ўжо не мінаваць,
Бо я-ж іх ашукала;
Я—заадно з табой,
Я рукі развязала
Табе... Каханы мой,_
Хай смерць, хай дамавіна,—
Больш не разлучаць нас,
Пайшлі.

— Хадзем, Арына,
Каб жыць... У добры час.

За сценкай страляніна
Пачулася якраз.
А потым змоўклі стрэлы.
Хтось бег на двор, з двара.
А потым загрымела
За сценкаю — «ура»,
Над садам, над дарогай
Яно расло, расло.

Ён выбег. Вартавога
Ля клеці не было.

Зіхцяць клінкі — за радам рад
Чырвоных коннікаў атрад.

З двара выносяць на бальшак
Паноў збялелых коні;
У час ратуецца Булак
Ад смерці — ад пагоні.

Начальнік варты бег... Ды ён
Якубу трапіў у палон.

Гарыць над ім лязо клінка.
Выводзяць з хаты Касянка.

Стаяць у час апошні свой,
У свой смяротны час яны,
Нібыта доляю адной,
Адной вяроўкай звязаны.

Народ — суддзя, а сведка — лес.
Пятля, асіна — суд увесь.

---

Спяваюць перапёлачкі
Усе да аднае,
Як быццам хто свісцёлачкі
У полі раздае.
Шумяць жыты вакольныя,
Зямля вакол пяе...—
То песні свае вольныя
Мір людзям раздае.
— Выходзь-жа, рацъ свабодная,
Жаць — жаць!..— зямля народная,
Гэй, жніце, людзі добрыя,
У вас-жа дзеткі дробныя,
Яны папухлі з голаду,
Яны пасіплі з холаду.

— Спраўляй, хлапец засмучаны,
З дзяўчынаю заручыны,
Спраўляй!..
Яна заручыцца,
Спраўляй!..
Век не разлучыцца
Праклятвы пан — з асінаю,
А ты— з сваёй дзяўчынаю.

**10**

Стаў светлым, стаў святочным
І сад і гай, і бор —
Мігціць за дрэвам кожным
Святло армейскіх зор.

Як сонца —сцяг над ганкам.
Прывал байцам. А там
Зноў у паход тачанкам,
Вінтоўкам ды клінкам.

Дом вымер — дамавіна.
У садзе — цішыня.
Садзілася Арына
Апошняй на каня.

У поплаве ля дуба
Дагнала двух байцоў—
Адама і Якуба —
Нядаўніх ганчароў.

Там, без царквы, законны
З Адамам брала шлюб,
Вянчаў іх сцяг чырвоны,
Быў шаферам Якуб.

Над імі неба свечкі
Запальвала ўгары.
Было іх два разведчыкі,
Цяпер іх стала — тры.

Праз плошчу, цераз горад

Пранесліся ў цішы,
Дзе бачыліся ўчора
Яны на кірмашы.

Над імі грозна ўзняты
Сталёвыя клінкі.
Паехалі салдаты
Тым шляхам праз вякі.

Паехалі салдаты
У слаўны свой паход.
Ужо з тых дзён, з той даты
Мінула колькі год.

Яны-ж, з прыпеўкай звонкай,
Імчаць праз дождж, мяцель,
Дзе конна, дзе на джонках,
Дзе па пясках пустэль.

Другія ў іх імёны,
Аблічча, мова, шлях,
Але шуміць чырвоны
Над імі той-жа сцяг.

І ранак палымнее
Над імі, як пажар,
І гэтак сама вее
Ім вецер волі ў твар.

Дзе на зямлі змаганне
За мір — іх знойдзеш там,
Іх бачылі ў Пхеньяне,
Пра іх пяе В'етнам.

Іх радасна ў Тыбеце
Вітае ўвесь народ.
Грыміць па цэлым свеце
Няспынны іх паход,—

Паход самой гісторыі,
Праўдзівасці самой,

Паход па тэрыторыі,
Заселенай бядой...

Паход... Няхай жыве паход,
Катоогым падымаецца
На бой людскі паўстаўшы род,
Каторым ноч знішчаецца,

Бяда перамагаецца,
Зямля ўся вызваляецца,
Мір людзям здабываецца...—
Няхай жыве паход!

**ЗМЕСТ**

